

ЮБІЛЕІ

ДА 100-годдзя НАРОДНАГА АРТЫСТА Глеба ГЛЕБАВА

Стар. 14.

НОВАЯ РУБРЫКА

«Я і МОВА»

РОЗДУМ Максіма ЛУЖАНІНА



Стар. 8—9.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

Расціслаў ЗАВІСТОВІЧ НА НАРАДЗЕ Ў КЛІНТАНА



Стар. 10—11.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

13—20 мая 1999 года

Цана 34 000 рублёў

№№ 19—20

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 1955 г.


MEMORIAL



На мяжы тысячагоддзяў новы погляд на гісторыю прапаноўваюць новыя даследчыкі. Сярод найбольш нечаканых і запамінальных — Леанід Маракоў. Валодаючы здольнасцю падсумоўваць вялікі аб'ём інфармацыі, ён вызначыў для сябе бліжэйшай мэтай — стварыць энцыклапедыю рэпрэсіраваных беларускіх літаратараў так званай "першай хвалі", якая абмежавана 1937 годам. Іх, як лічыць Л. Маракоў, аказалася каля 250 чалавек з 260, што займаліся літаратурнай дзейнасцю. Пісьменнікі, паэты, крытыкі — ахвяры, знішчаныя ці непрызнаныя. Многія, існуючы паміж дзвюма таталітарнымі сістэмамі — сталінізмам і фашызмам, — фанатычна захоўвалі мару аб незалежнай Беларусі. "Нацдэмы" — ідэалагічная секта, якая выціснута са свайго нацыянальнага асяродка, ці неспазнаныя таленты? Новыя звесткі, што збірае Леанід Маракоў, даюць магчымасць больш дакладна вызначыць не толькі асобныя лёсы, але і гістарычную заканамернасць.

Публікацыі гэтага даследчыга на працягу апошняга года з'явіліся практычна ва ўсіх беларускамоўных газетах і часопісах краіны. Нашай газеце Леанід Уладзіміравіч з улікам тэматычнай асаблівасці прапанаваў артыкул пра Антона Адамовіча. Друкуем яго перш за ўсё з мэтай пазнаёміць чытача з новым даследчыцкім падыходам да гістарычных падзей.

6—7 стар.

МІЖНАРОДНАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ

## ЕЎРОПА І БЕЛАРУСЬ

**Падчас святкавання 50-годдзя Савета Еўропы ў французскім Страсбургу адбыліся слуханні па сітуацыі ў Беларусі. Яны прайшлі ў межах Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ).**

**Для ўдзелу ў гэтым мерапрыемстве ў Францыю ўпершыню былі запрошаны дзве парламенцкія дэлегацыі, якія прадстаўлялі процілеглыя палітычныя сілы — афіцыйную ўладу і апазіцыю. Нацыянальны сход на перамовах быў прадстаўлены Уладзімірам Канаплёвым, Мікалаем Чаргінцом, Леанідам Глухоўскім і Аляксандрам Шпілеўскім, а апазіцыйны Вярхоўны Савет XIII склікання — Анатолем Лябедзькам, Сяргеем Калякіным і Мечаславам Гіруцем. Якраз паміж гэтымі людзьмі і адбылася ў Страсбургу дыскусія пры назіранні і ўдзеле членаў Палітычнага камітэта ПАСЕ.**

**Абедзве беларускія дэлегацыі ехалі ў Францыю з вялікімі спадзяваннямі. Дэпутаты Нацынальнага сходу разлічвалі пераканаць еўрапейскіх парламентарыяў у сваёй легітымнасці і законнасці дзеянняў беларускіх улад. Яны імкнуліся нейкім чынам наблізіць той час, калі Беларусь будзе аднаўлена ў Савеце Еўропы ў якасці назіральніка. Нагадаю, што пасля**

(Заканчэнне на 2-й стар.).



Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

*Пасол ЗША Дэніел СПЕКХАРД прыехаў у Мінск на адзін тыдзень, каб азнаёміцца з палітычнай сітуацыяй у рэспубліцы.*

НАПЯРЭДАДНІ

## ВІЦЕБСК ПАЧАЎ ФЕСТЫВАЛІ

Да "Славянскага базара" два месяцы, а ў Віцебску ўжо фестывальны настрой: адзін за адным праходзяць тут буйныя агляды-конкурсы прадстаўнікоў розных мастацтваў.

На ролю міжнароднай падзеі прэтэндуе гарадскі фестываль дзіцячай творчасці з забаўнай назвай "Дзінь-Дзвінь-Пралескі", у якім прынялі ўдзел 6—13-гадовыя таленты з Беларусі, Расіі і Латвіі. Сярод 200 юных спевакоў, музыкантаў, танцораў і кампазітараў выявіліся па-сапраўднаму рэдкія дараванні. Досыць сказаць, што ў намінацыі "Кампазітар" вызначылася васьмігадовая Саша Пякарская з віцебскай музычнай школы № 1.

Узнагародай для канкурсантаў стала і выступленне ганаровага госця, прэзідэнцкага стыпендыята, лаўрэата многіх конкурсаў, уладальніка унікальнага голаса Сашы Чаркаса з Пінска.

Сталічны вакальны секстэт "Ваганты" павёз з Віцебска Гран-пры V рэспубліканскага фестывалю "Песні юнацтва нашых бацькоў". І тут у ліку самадзейных салістаў і ансамбляў былі такія, слава якіх з часам, магчыма, выйдзе за межы Беларусі. Госця фестывалю спявачка з Даўгаўпілса Аксана Троза выказала шкадаванне, што падобных мерапрыемстваў у Латвіі няма, і пажаданне зрабіць беларускі агляд самадзейных дараванняў міжнародным.

6 мая ў Віцебску адбыўся чарговы фестываль "Студэнцкая вясна", маштабы і змест якога заўсёды ўражваюць.

Ну а галоўнае шоу сезона — "Славянскі базар" у Віцебску" — пачнецца 18 ліпеня.

БЕЛАРУСЬ — МАЛДОВА



Фота Віктара СТАВЕРА.

Беларусь наведаў намеснік дырэктара Дэпартамента нацыянальных адносін і функцыянавання моў Рэспублікі Малдова Іон ГОРБУЛЬ. Ён правёў перамовы са старшынёй Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандрам БІЛЫКАМ (на здымку справа), сустрэўся з прадстаўнікамі малдоўскай дыяспары. Была абмеркавана міждзяржаўная праграма супрацоўніцтва ў галіне дзейнасці нацыянальных меншасцей на 1999—2000 гады.




СПОРТ: ГАНДБОЛ, ФУТБОЛ, КІКБОКСІНГ

Стар. 2.

Аляксандр КАЛІНІН — «СПОНСАР» РЭКОРДАЎ

Стар. 15.


ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

У Беларускім дзяржаўным цырку адбылася прэзентацыя з купаннем у шампанскім аўтамабіля "МАЗ-5440", што нядаўна атрымаў грын-карту, якая гарантуе бесперашкоднае перамяшчэнне па дарогах Еўропы.

Не абыдзены ўвагай і шматмэтавы аўтамабіль "МАЗ-5316 05". Ім цікавіліся многія.

Мінскі аўтазавод, апынуўшыся ў шторме жорсткага крызісу 1994—1996 гадоў, даказаў, што сябе можна выратаваць у самай, здавалася б, бязвыхаднай сітуацыі самому. Такім чынам, "МАЗ-5316 05" можна лічыць сімвалам поспеху тытанічных намаганняў.

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты "Голас Радзімы"! Ад усяго сэрца віншуем вас з Днём Перамогі над гітлераўскім фашызмам. Я яшчэ не забылася пра гэты дзень. Калісьці нямецкія фашысты мяне, 14-гадовую, забралі на катаргу на 3 гады з роднай Беларусі.**

**Вялікае вам дзякуй за газету з Радзімы. Мы чытаем яе з вялікай цікавасцю. Заўсёды рада, калі атрымліваю "Голас Радзімы".**

**Жадаем вам добрага здароўя, міру на ўсёй планеце.**

**З павагай да вас**

**Надзея ОСТЭРМАН-ГАЛІЁНКА.**

Галандыя.



10—11 стар.

Тыдзень: Фотафакты. Падзеі.

МІЖНАРОДНАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ

# ЕЎРОПА І БЕЛАРУСЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

правядзення рэферэндуму ў 1996 годзе наша краіна была пазбаўлена гэтага статуса.

У сваю чаргу, прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, з якімі, дарэчы, ПАСЕ не разрывала кантактаў, разлічвалі пераканаць удзельнікаў асамблеі, што менавіта яны з'яўляюцца легітымнымі носьбітамі ўлады і маюць законнае права прадстаўляць Беларусь у Савеце Еўропы.

Але, як паказалі слуханні, гэтае мерапрыемства пакуль засталося безвыніковым. Пасля вяртання ў Мінск дэпутаты Нацыянальнага сходу паведамілі, што яны, канешне, правялі шэраг сустрэч у Страсбургу, але стаўленне Савета Еўропы ў адносінах да іх і ўвогуле да сітуацыі ў Беларусі ніякім чынам не змянілася. Тое ж пацвердзілі і прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, якія ў такой сітуацыі, вядома ж, апынуліся нібыта ў больш прывабным становішчы.

Але сам факт правядзення слуханняў прымушае задумацца як над іх мэтай, так і над магчымымі перспектывамі супрацоўніцтва Беларусі з Саветам Еўропы. Відавочна, еўрапейскія палітыкі стаяць перад складаным выбарам. Яны, мабыць, пакуль не ведаюць, як годна выйсці з сённяшняй сітуацыі. Чарговы раз выслухаўшы аргументы розных палітычных сіл у Беларусі, яны пераканаліся, што ніводзін з бакоў не жадае ісці на кампраміс. Наадварот, дыскусія ў палітычным камітэце была падобная на эмацыянальную перапалку з узаемнымі абвінавачваннямі.

У выніку гэтага прадстаўнікам Савета Еўропы нічога не застаецца, як працягваць падобную дыпламатычную працу і чакаць, што сітуацыя з цягам часу зменіцца сама па сабе. Сёння Савет Еўропы не адважваецца прызнаць паўнамоцтвы ні дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія не прадстаўляюць большасці парламента, ні членаў Нацыянальнага сходу, які быў утвораны ў выніку рэферэндуму. Таму існуе версія, што падобнае чаканне можа зацягнуцца сама мала яшчэ на адзін год: да таго часу, пакуль у Беларусі не пройдуць чарговыя выбары заканадаўчага органа краіны, які будзе валодаць дастатковай легітымнасцю, каб быць прызнаным Саветам Еўропы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

З ВІНШАВАННЯ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ

ДАРАГІЯ СУАЙЧЫННІКІ!

Сардэчна віншую вас з усенародным святам — Днём Перамогі!

У гэты светлы і радасны дзень са словамі шчырай удзячнасці я звяртаюся да вас, дарагія абаронцы Айчыны, сіла духу, мужнасць і адвага якіх уразілі свет. Ваш подзвіг навечна застанецца ў памяці беларускага народа і ў памяці ўсяго чалавецтва.

Шлях да вялікай Перамогі пачынаўся на нашай беларускай зямлі. Ужо ля сцен Брэсцкай крэпасці вораг сутыкнуўся з небывалай стойкасцю і масавым гераізмам савецкіх людзей. Менавіта тут стала ясна, што разлікам гітлераўцаў на маланкавую вайну не суджана збыцца. На барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўзняўся ўвесь народ. Каля паўтара мільёна нашых землякоў уліліся ў рады Чырвонай Арміі, амаль паўмільёна партызан і падпольшчыкаў змагаліся з ворагам на тэрыторыі Беларусі ў час яе акупацыі.

Нягледзячы на нечалавечую жорсткасць, захопнікам не ўдалося пакарыць нашу зямлю, пераварыць беларусаў у маўклівых рабоў.

Мы памятаем аб укладзе ў перамогу другой сусветнай вайны народаў і армій нашых саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Але сёння памяць ваенных гадоў азмрочана падзеямі, якія адбываюцца на Балканах. Шкада, што ў асобных палітыкаў такая кароткая гістарычная памяць. Праз паўстагоддзя на югаслаўскай зямлі ў выніку натаўскіх ракетных удараў, як некалі ад фашысцкіх бомбаў, зноў гінуць мірныя людзі. Учарашнія саюзнікі па барацьбе з гітлераўскімі полчышчамі самі выступаюць у ролі агрэсара.

Наш абавязак — зрабіць усё магчымае, каб спыніць кровапраліцце на зямлі Югаславіі, не даць раздзьмуць полымя новай сусветнай вайны, якая можа паставіць апошнюю кропку ў гісторыі чалавецтва.

Мы ўпэўнены, што разумны сэнс возьме верх. Намі будуць прыкладзены ўсе намаганні, каб мір, за які заплачана неймаверна высокая цана, быў захаваны.

Са святам Перамогі, дарагія ветэраны, паважаныя суайчыннікі!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**
7 мая 1999 года.







Мінск. Май, 1999. Фота Віктара СТАВЕРА.

МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ

# СВЯТА ПОЛЬСКАЕ І НАША

**У сталічным Доме дружбы таварыства "Беларусь — Польшча" наладзіла вечарыну, прысвечаную нацыянальнаму святу нашых заходніх суседзяў — Дню Канстытуцыі.**

— Насамрэч 3 Мая з'яўляецца адметнай датай і ў гісторыі беларускага народа, — распавёў прысутным адзін з дакладчыкаў, прафесар БДУ Іосіф Юхо. — Асноўны закон краіны быў прыняты Соймам Рэчы Паспалітай у 1791 годзе, а на той час у склад федэратыўнай дзяржавы ўваходзіла як Польшча, так і Вялікае княства Літоўскае (сучасная Беларусь).

Паводле Канстытуцыі, у краіне абвяшчалася свабода слова (і не толькі для шляхты, але для ўсяго народа), канчаткова замацоўваўся падзел уладаў на заканадаўчую, выканаўчую ды судовую, таксама былі падрабязна акрэслены правы сялян. Самі ж "хлопы" прызнаваліся "галоўнай крыніцай дабрабыту дзяржавы". Яшчэ адзін цікавы артыкул: кожны, хто ступаў на зямлю Рэчы Паспалітай, абвяшчаўся вольным чалавекам...

Як адзначыў амбасадар Рэспублікі Польшча спадар Марыюш Машкевіч, які прысутнічаў на святкаванні ў Доме дружбы, "падобныя сустрэчы яшчэ раз падкрэсліваюць даўнюю сувязь гісторый і культур абедзвюх краін: Беларусі і Польшчы". Завяршыўся вечар выступленнем Камернага хору польскага студэнцкага клуба Саюза палякаў Беларусі, а таксама канцэртам студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі: скрыпачак Вольгі Шушлябінай і Валерыі Нарушкінай, канцэртмайстраў Ірыны Неўскай ды Сяргея Багачова.

А непасрэдна ў дзень свята ў тым жа Доме дружбы польская амбасада наладзіла афіцыйны прыём.

**Уладзіслаў ХІЛЬКЕВІЧ,**
**прэс-сакратар**
**Беларускага таварыства дружбы.**

# СЯБР — ПА-ФРАНЦУЗСКУ АМІ!

**У Францыі, у дэпартаменце Поўнач-Па-дэ-Кале, нядаўна адбыліся Дні Беларусі, арганізаваныя Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі сумесна з асацыяцыяй "Французская народная дапамога".**

Дзяляючыся ўражаннямі аб паездцы, старшыня таварыства Арсен Ваніцкі зазначыў: у горад Ліль, цэнтр дэпартамента, прыбылі народны ансамбль танца Белдзяржуніверсітэта "Крыжачок", вядомыя мастакі-графікі з выставай сваіх твораў... Вечары дружбы ў многіх гарадах дэпартамента, удзел у віншаванні ветэранаў працы ў горадзе Обі і першамайскім свяце ў Дзенэне, сустрэчы і перагаворы з прадстаўнікамі дзяржструктур, мэрамі камун — такая далёка не поўная праграма знаходжання беларускай дэлегацыі ў Францыі.

Супрацоўніцтва з "Французскай народнай дапамогай" ажыццяўляецца ўжо на працягу дзесяці гадоў. І за гэты час у Францыі пабывалі на аздараўленні 2 300 дзяцей у асноўным з Магілёўскай і Гомельскай абласцей.

Сотні французскіх сем'яў, якія прымалі дзяцей на аздараўленне, штогод прыязджаюць у Беларусь, развіваючы праграму "Ад сям'і да сям'і".

Дні Беларусі ў Францыі ўмацавалі партнёрскія сувязі паміж пароднёнымі гарадамі дзвюх краін. Такіх гарадоў восем, пабрацім Мінска — Ліён.

ЭКАНАМІЧНЫ АГЛЯД

# ВЁСКА ТРЫМАЕЦЦА НА КРЭДЫТАХ У ЧАКАННІ ВОСЕНІ

Яшчэ падчас прыняцця дзяржаўнага бюджэту на гэты год было відавочна, што асноўнымі прыярытэтамі фінансавання стануць сельская гаспадарка і сацыяльная палітыка. На гэтыя мэты ў бюджэце было запланавана амаль па 10 працэнтаў усіх грошай, або больш чым па 40 трыльёнаў беларускіх рублёў.

Але ўжо першыя палявыя работы пацвердзілі, што такой сумай фінансаванне сельскай гаспадаркі сёлета наўрад ці абыдзецца. Толькі на вясенні сеў дзяржава выдаткавала некалькі дзесяткаў трыльёнаў рублёў. Такое заключэнне вынікае з заяў віцэ-прэм'ера Аляксандра Папкова ды і самога Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які ўжо праве́ў некалькі рэспубліканскіх нарад, прысвечаных стану спраў на вёсцы, і асабіста кантралюе ход работ.

Згодна з прагнознымі паказчыкамі, сёлета маркуецца павысіць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў параўнанні з мінулым годам не менш чым на 4 працэнты. Гэта пры тым, што летась прагнозныя паказчыкі прадугледжвалі рост 4,5 працэнта, але так і не былі выкананы. Наадварот, у галіне адбыўся заўважны спад.

Такім чынам, сёлета айчынныя сельгасвытворца вымушаны будзе паказаць рост па многіх паказчыках. Найперш гэта датычыцца збору збожжа, які павінен скласці не менш за 7 мільёнаў тон. Менавіта такое заданне пастаўлена дзяржава. У паўтара раза маркуецца павысіць вытворчасць ільновалакна, запланаваны рост вытворчасці цукровых буракоў, бульбы, агароднiны. Па гэтай прычыне сёлета будуць некалькі пашыраны пасяўныя плошчы. А асноўны рэзерв, за кошт якога плануецца дасягнуць падобнага росту, — нябачанае дагэтуль крэдытаванне сельскай гаспадаркі.

Яно, дарэчы, адбываецца не без цяжкасцей, але абнародаваныя ўрадам лічбы ўражваюць. Па словах віцэ-прэм'ера А. Папкова, на правядзенне вясенне-палявых работ банкамі краіны былі прадастаўлены сельскагаспадарчым прадпрыемствам і іншым суб'ектам крэдыты ў памеры 11 трыльёнаў рублёў. Але гэтай сумы, якую яшчэ зімой запланаваў урад, аказалася недастаткова. Таму ў аўральным парадку зараз выщукваюцца дадатковыя сродкі. У прыватнасці, Нацыянальны банк сумесна з Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання тэрмінова занялiся пошукам яшчэ 8 трыльёнаў рублёў для выдачы крэдытаў на авансаванне пастаўак прадукцыі для дзяржаўных патрэб. Адначасова з гэтым урад плануе знайсці рэзерв у памеры 5 трыльёнаў рублёў у бюджэце. Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на адной з нарад, у сувязі з гэтым нагадаў, што зараз дзяржава накіроўвае на правядзенне сяўбы максімум бюджэтных сродкаў, у некаторых выпадках нават забіраючы грошы ў іншых бюджэтных галінах. Але кіраўніцтва Беларусі лічыць такую палітыку апраўданай, бо, па словах А. Лукашэнкі, паспяховае правядзенне вясенне-палявых работ — залог харчовай бяспекі дзяржавы ў недалёкай будучыні.

Па ацэнках жа незалежных экспертаў, беларуская дзяржава, як і ў папярэднія гады, мабыць не абыдзецца без крэдытаў за кошт дадатковай эмісіі Нацыянальнага банка. А гэтая мера ўжо разглядаецца як падстава для чарговага вітка інфляцыі ў краіне.

Але відавочна, што грошай зараз вёсцы ўсё роўна не хапае. Згодна з паведамленнямі інфармацыйных агенцтваў, у Віцебскай вобласці недастаткова фінансавых сродкаў для выдачы сялянам заработнай платы, таму там часткова ўводзіцца сістэма натуральнай аплаты — зернем, бульбай і г. д. Такім чынам, беларуская дзяржава сёлета ідзе на вельмі вялікія ахвяры з разлікам, што восенню гэтыя меры акупяцца...

**Ян ЛАХВІЧ.**

СПАДЧЫНА



Мастак-рэстаўратар Віцебскага абласнога краязнаўчага музея Алег Сядлоўскі захапляецца старадаўняй зброяй. Вернутая да жыцця ў яго майстэрні, яна ўпрыгожвае затым экспазіцыі і іншых музеяў горада.

**На здымках:** Алег СЯДЛОЎСКІ ў адзенні гарадскога правіцеля XVII стагоддзя; адрэстаўраваныя Сядлоўскім зброя і даспехі XVII—XVIII стагоддзяў.



*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.*

# МЕТАМАРФОЗЫ БЫЛОГА ПАРТРАБОТНІКА, А ЗАРАЗ ДЫРЭКТАРА МУЗЕЯ

**АЛЯКСАНДР ПРАНОВІЧ і нарадзіўся на Пухаўшчыне, і, калі не лічыць студэнцтва, увесь час жыве тут. Бальшыню — у Мар'інай Горцы. Да 1991, пакуль не забаранілі кампартыю, працаваў у мясцовым райкоме. Мусіць, не будзе тайнай, калі заўважыць, што надта вялікіх праблем з працаўладкаваннем у райкомаўцаў былых не з'явілася: хто — у райвыканком, хто — кіраўніком на вытворчасць, хто — у бізнес. Прановіч — дырэктарам у раённы краязнаўчы музей. Як для мяне асабіста, метамарфоза дзіўная. Не ведаў, што Аляксандр Аляксандравіч па адукацыі — гісторык. А музея фактычна і не было. Хутчэй — толькі збор экспанатаў. А калі гаварыць пра музей як пра сур'ёзную асветніцкую ўстанову, то, мусіць, яе не існавала. Часцей зачыненымі аказваліся дзверы музея, які месціўся раней, між іншым, у Дукоры.**

Славутае мястэчка... Гераічная памяць у Дукоры. Запісана гэтая памяць у генетычным кодзе і самой вёскі, і яе насельнікаў. Упершыню Дукора ўпамінаецца ў 1582 годзе як уласнасць непаўналетніх дзяцей Я. Завішы. У 1615 аддадзена ў заклад К. Служку, у сяле былі 84 двары сялян-кунічнікаў. Уладальнікамі маёнтка пазней сталі Агінскія, з канца 1710-х — Ф. Оштарп. Мела Дукора уніяцкую Узвіжанскую царкву, яўрэйскую школу, будаваўся тут мураваны касцёл. Праводзіліся 4 кірмашы на год. У 1-й палавіне XIX стагоддзя пабудаваны мураваны палац, працавалі цырк з замежнымі акцёрамі, аркестр, бібліятэка. Дарэчы, палац захаваўся на малюнку славутага Напалеона Орды. У палацы было шмат жылых і парадных пакояў. Бібліятэка складала некалькі тысяч тамоў. А яшчэ ж меліся архіў, вялікая калекцыя твораў выяўленчага мастацтва (а ў ёй — карціны Ф. Смуглевіча, Я. Дамеля, іншых знакамітых мастакоў). Дукора — гэта і радзіма Аляксандра Чарвякова. А ячшэ ж з вёскай звязаны і лёс дукорскіх партызан. Дыфензіва натрапіла на іх след і 27—28 красавіка 1920 года правяла арышты ў Козыраве, Калядзічах і Гатаве, а 3 мая — у Дукоры. 17 мая ва ўрочышчы Пушча расстраляны 11 дукорскіх партызан. Героям прысвечана п'еса дукарчаніна Васіля Гарбацэвіча "Чырвоныя кветкі Беларусі".

Але з часам і гэтыя факты, што ўжо казаць пра астатнюю пухавіцкую гісторыю, пачалі знікаць з людской памяці. І блізкасць музея наўрад ці на каго ўплывала. А ў раёне не ўсе і настаўнікі ведалі, што ёсць недзе ў Дукоры раённы краязнаўчы музей.

З прыходам Прановіча музей пераехаў у Блонь. Па-першае, паблізу ад райцэнтра, ад Мар'інай Горкі. Па-другое, памяшканне абралі пад музей зусім не выпадковае, размясцілі ў маёнтку А. Бонч-Асмалоўскага і В. Бонч-Асмалоўскай (Вахоўскай). Асобы ў XIX стагоддзі высокія ў сваім духоўным развіцці, знакамітыя — рэвалюцыянеры-народнікі, дваране. Анатоль Восіпавіч — адзін з кіраўнікоў "Саюза зямляцтва Пецярбурга", садзейнічаў арганізацыі друкарні "Чорнага перадзелу" ў Мінску. Стаўшы пасля смерці бацькі ўласнікам маёнтка Блонь, частку даходаў перадаваў на рэвалюцыйныя мэты. Разам з жонкай стварыў Блонскую сялянскую арганізацыю.

Адважыўшыся на працу ў музеі, Прановіч узяў на сябе вялікі груз адміністрацыйных, гаспадарчых клопатаў. Можна бясконца расказваць, якіх высілкаў заўжды каштуе дырэктару здабыча грошай, літаральна кожнай капейчыны для музея. Быў і крадзеж, і бягучы рамонт. Адзін з ураганаў паваліў на будынак старыя дрэвы. Давялося мяняць дах — ізноў велізарныя затраты. Але дужа Прановіч аб гэтым не распаўсюджваецца. Час імкнецца максімальна выкройваць на іншае — калі так можна сказаць, на музейную творчасць. Для кагосьці з музейных мастакоў, з распрацоўшчыкаў экспазіцый канцэпцыя размяшчэння экспанатаў, агульная ўладкаванасць залаў пададуцца досыць сціплымі, някідкімі. Але гэта толькі на першы погляд, пры ўмове, што разбор будзе ажыццяўляцца прафесійны, магчыма, з разлікам на асаблівую вычурнасць: маўляў, гледача нешта павінна захапляць. Дырэктар Пухавіцкага раённага музея не супраць — канешне, павінна захапляць.

— Лічу, што, прыйшоўшы да нас, — гаворыць Аляксандр Аляксандравіч, — наведвальнік павінен як мага болей даведацца пра родную старонку. Мо здарыцца так, што чалавек ужо і не завітае ў музей. Дык навошта тады адмысловая шкляная вітрына?!

Памяшканне складаецца з некалькіх залаў. Сівая мінуўшчына, матэрыялы археалагічных вышукаў, гісторыя асобных населеных пунктаў, грамадзянская вайна, калгаснае будаўніцтва, Вялікая Айчынная, літаратурны і мастацкі летапіс краю — вось раздзелы пухавіцкай скарбніцы гістарычнай памяці.

Раён і сапраўды багаты на гістарычныя адмецінны. На людзей, якія выраслі, сфарміраваліся як асобы ў Мар'інай Горцы, Пухавічах, Шацку, Дукоры, Турыне, Арэшкавічах, Азярычыне, Рудзенску, іншых мястэчках і вёсках Пухаўшчыны. І Аляксандр Аляксандравіч апіраецца на гэта. Музейшчык не баіцца ўмешвацца ў экспазіцыю, калі знойдзены матэрыялы яшчэ пра кагосьці з землякоў ці ўвогуле, калі адкрыта новае, дагэтуль невядомае імя. Здараецца і апошняе. Прановіч уважліва сочыць за рэспубліканскай перыёдыкай. Варта ў газетах і часопісах з'явіцца нейкай інфармацыі, звязанай з краем, яго ўраджэнцамі, як адразу пачынаецца пошук. Так здарылася і з адкрыццём архіва Рыгора Папараця. Падштурхнуў да пошуку артыкул у часопісе "Першацвет". Знайшлі жонку рэпрэсіраванага паэта (а яна ж побач — у Турыне жыве). Вось і перадала яна рукапісную спадчыну літаратара ў музей. Пасля ўжо толькі на яго след натрапілі з Беларускага архіва-музея літаратуры і мастацтва. А Прановіч не толькі ў музеі нагадаў пра паэта-земляка, а яшчэ зрабіў усё магчымае, каб у Мар'інай Горцы ў серыі "Паэты Пухаўшчыны" кніжачку Рыгора Папараця выдалі (пры жыцці ж у таго ніводнага зборніка не было).

Землякоў Аляксандр Аляксандравіч шукае паўсюдна. Часта наведваецца ў Мінск. Завітвае да знаёмых і незнаёмых рупліўцаў у выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя", у Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, у Саюз пісьменнікаў, у Беларускі фонд культуры.

З прыходам Прановіча ў музей, здаецца, пабольшала на сядзібе Бонч-Асмалоўскіх знакамітых наведвальнікаў. Частым госцем быў у Блоні народны пісьменнік Беларусі Іван Чыгрынаў. Зараз няма ўжо сярод нас, жывых, знакамітага творцы. А ў музеі ў літаратурным раздзеле — чыгрынаўскі куточак. Разам з Іванам Гаўрылавічам прыязджалі ў свой час у музей і мастак Аляксей Марачкін, і паэт Алесь Пісьмянкоў. Сябруюць яны з музеем і зараз. А адну з залаў упрыгожвае карціна Аляксея Марачкіна.

Былі ў музеі, заўсёды памятаюць пра яго генерал-лейтэнант у адстаўцы Яўген Мікульчык (родам з Міжрэчча), народны артыст СССР, кампазітар Ігар Лучанок, браты Рэпіны (адзін — вядомы журналіст-міжнароднік і зараз працуе ў газеце "Труд", другі — беларускі мастак) ды шмат хто яшчэ.

Прановіч лепей за іншых памятае выслоўе са спадчыны Гётэ: "Калі хочаш зразумець паэта, скіроўвай на яго радзіму". Кожная юбілейная дата становіцца для дырэктара музея падставай для таго, каб вечар літаратурны арганізаваць, каб іншых расштурхаць — аддзел культуры райвыканкома, аддзел адукацыі, раённую бібліятэку.

Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей, і гэта відавочна, ад году ў год становіцца своеасаблівым, прыкметным цэнтрам асветніцкага жыцця на Пухаўшчыне. Яркі прыклад — 115-я ўгодкі з дня нараджэння Якуба Коласа. І хаця радзіма вялікага песняра — Стаўбцоўшчына, Пухаўшчына не чужы Коласу куточак. Штогод паэт летаваў у пухавіцкіх вёсках — у Тальцы, Вусці, Загібельцы, Падбярэжжы, Беразянцы, Балачанцы. На Пухаўшчыне напісаны многія творы Коласа. І вось (на вялікі жаль, толькі ў 1997 годзе) пухаўчане паруліліся як след (расштурхаў, канешне ж, Прановіч!), каб правесці Коласаўскія дні. У школах раёна прайшлі сустрэчы з пісьменнікамі — прыехалі ў госці Генрых Далідовіч, Васіль Шырко, Міхась Зарэмба, Мікола Жыгоцкі. У Тальцы на будынку чыгуначнага вакзала адкрылі мемарыяльную дошку. Вялікі вечар з удзелам сваякоў Коласа прайшоў у раённым Палацы культуры. Безумоўна, ідэі, асветніцкія праекты Аляксандра Прановіча трапляюць на ўрадлівую глебу. З любой прапановай, задумай можна завітаць да старшыні Пухавіцкага райвыканкома Фёдара Супруна. Чалавек да культуры нераўнадушны, ён заўсёды падтрымае, падкажа магчымыя шляхі рэалізацыі задуманага. Сярод паплечнікаў Прановіча — і загадчык аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкома Яўген Сушко. І ўсё ж многае залежыць (думаю, што астатнія не пакрыўдзяцца) ад Аляксандра Аляксандравіча. Бо часам галоўным той клопат якраз і з'яўляецца, каб нейкую ідэю вылучыць, каб сфармуляваць яе.

Не апошні клопат у дырэктара музея — і ўласна краязнаўчыя росшукі, даследаванні. Чаго грэх хаваць, у шэрагах музейшчыкаў хапае і тых, хто лічыць неабавязковым весці даследчыцкую працу. А які ж тады краязнаўчы музей, калі не абагульняюцца сабраныя матэрыялы, калі не робяцца нейкія высновы, калі пра цікавыя знаходкі не расказваецца ў друку, найперш — у мясцовым?! У апошнія гады А. Прановіч даволі часта выступае на старонках мясцовай "раёнкі" "Пухавіцкія навіны". Трымаю ў памяці цэлы шэраг артыкулаў пра сям'ю Бонч-Асмалоўскіх, у чыім доме, нагадаю, месціцца раённы музей. Аляксандр Аляксандравіч надрукаваў нарысы пра Блужу, Дукору, Турын. Пастаянна кантактуе, трымае сувязь з іншымі пухавіцкімі краязнаўцамі. А ў раёне жыве і працуе нямала захопленых, апантаных збіральнікаў гістарычнай памяці. Літаратурным краязнаўствам займаецца дырэктар Светлаборскай сярэдняй школы Браніслаў Зубкоўскі (і кніжку апавяданняў пра Коласа выпусціў). Рукапісную кнігу пра Шацк стварыла старшыня выканкома Шацкага сельскага Савета Наталля Песенька. Займаюцца гісторыяй партызанскага руху на Пухаўшчыне Сяргей Сілач з Гарэльца і Уладзімір Кулеш з Турына. Збірае краязнаўчыя матэрыялы пра Тальку і ваколіцы Наталля Ілініч.

Як мне асабіста падаецца, з дня ў дзень сталее, сур'ёзнейшым становіцца краязнаўчы, музейны талент былога партыйнага работніка Аляксандра Прановіча. І веру, што здзейсняцца многія яго задумы, планы, праекты. Шырэйшым і багацейшым стане і сам Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей.

**Іван САБАТНЮК.**
Пухавіцкі раён.

ПЕРШЫ драўляны касцёл у Навагрудку быў узведзены князем Аляксандрам Вітаўтам у канцы XIV стагоддзя пасля хрышчэння Літвы. Храм пабудавалі на ўзгорку каля замка, на месцы, паводле падання, былога язычніцкага гаю і святыні Перуна. Аднанефавы цагляны касцёл, які існуе цяпер, быў выкананы ў стылі барока ў 1719—1723 гадах. З правага боку знаходзяцца дзве капліцы, пабудаваныя раней, пра што сведчыць умураваная памятная дошка. У адной з капліц стаіць статуя святога Экспедыста, а таксама помнік Рудаміну Дусяцкаму і мармуровая кансекрацыйная табліца касцёла. У другой, дамініканскай, або, іначай, капліцы Маці Божай, захоўваецца цудоўны абраз Маці Божай Наваградскай. Кажуць, што праз яго атрымаў ласку аздараўлення Адам Міцкевіч. Першапачаткова касцёл вядомы пад назвай Усіх Святых, потым — Божага цела і, нарэшце, у 1776 годзе біскуп Жулкоўскі даў яму імя Пераўвасаблення Божага. Касцёл быў сведкам розных гістарычных падзей.

У ім у 1422 годзе Уладзіслаў Ягайла браў шлюб з князёўнай Соф'яй Гальшанскай. Наваградскі кашталян Ян Рудаміна Дусяцкі, які пад Хоцінам адбіў вялікія армады туркаў, паставіў у касцёле ў 1643 годзе помнік у памяць свайго брата і тых, хто загінуў у гэтай бітве. Бачым тут укленчаных рыцараў, галовы якіх, ахвяраваныя Богу і Айчыне, ляжаць на зямлі каля каленяў. Побач з ваярамі ўкленчыў у шчырай малітве за іх душы з ружанцам у руках сам Рудаміна Дусяцкі.

У гэтым касцёле адбываліся соймікі. У ім жа ў 1799 годзе ахрышчаны Адам Міцкевіч.

У галоўным алтары касцёла знаходзіўся абраз знакамітага мастака Смуглевіча, які ўвасобіў часіну Пераўвасаблення Божага. Але абраз быў знішчаны яшчэ на пачатку XIX стагоддзя, калі напалеонаўскія войскі падчас наступу на Маскву зрабілі ў касцёле склад збожжа. Абраз, які знаходзіцца ў святыні, намаляваў мастак Болтуць у 1939 годзе. Загадам міністра ўнутраных спраў Расіі ад 31 снежня 1857 года фарны касцёл быў закрыты. Без догляду пачалі разбурацца сцены, у капліцы, дзе знаходзіцца помнік Рудаміну, праз патрэсканую цэглу прараслі дрэўцы. Хтосьці павыломваў

## ФАРНЫ



**СА СТАРОГА КУФРА**




# БУДА-КАШАЛЁЎСКІЯ СТРОІ

БУДА-КАШАЛЁЎСКІЯ строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Падняпроўі, пераважна ў Буда-Кашалёўскім, Гомельскім, Рэчыцкім раёнах. Для іх характэрныя разнастайнасць прыёмаў вышыўкі і стрыманасць каларыту. Асноўныя часткі жаночага гарнітура: кашуля з прамымі плечавымі ўстаўкамі, адкладным каўняром і шырокімі рукавамі, спадніца (цёмна-чырвоны з чорнай клеткай андарак ці палатнянік), белы льняны фартух з фальбонай унізе, доўгі са складкамі на спіне чорны ці цёмна-сіні гарсэт (шнуроўка), пояс з кутасамі, завязаны ззаду. Галоўныя ўборы жанчын: намітка, чапец з кужалю ці паркалю, даматканая ці крамная хустка, завязаная "на ўрожкі". Шыйныя і нагрудныя ўпрыгажэнні — каралі, стужкі, крыжыкі і інш.

У мужчынскі гарнітур уваходзілі: тунікападобная кашуля з адкладным ці стаячым каўняром, прамымі (калошкай) ці сабранымі ў каўнерац рукавамі, ільняныя ці суконныя нагавіцы, узорыстатканы з вялікай кронкай кутасоў пояс. Галаўныя ўборы мужчын, жаночая і мужчынская вопратка істотных мясцовых адрозненняў ад агульнанацыянальных відаў і форм не маюць. Адзенне аздаблялі вышыўкай, якой уласцівыя ахраматычнасць і геаметрычная дакладнасць старадаўніх матываў. Аднаколерная вышыўка чорнымі ці белымі бавоўнянымі ніткамі вызначаецца ювелірнай распрацоўкай рамбічнага арнаменту. Двухбаковая падліковая гладзь спалучаецца з гафтам (сакаленнем), мярэжкай, карункамі і аблямоўкай, а таксама арыгінальным і характэрным для гэтага строю прыёмам аздаблення — маршчэннем (збіранне палатна чорнай ці белай ніткай у дробныя гафрыраваныя складачкі), якім утвараюцца рэльефныя ўзорыстыя паскі на версе і нізе рукавоў кашулі.

Падрыхтаваў
**Дзяніс РАМАНЮК.**

# ПАРК У КНЯЗЕВЕ

**У мэтах захавання найбольш каштоўных у гісторыка-культурных і архітэктурна-ландшафтных адносінах старадаўніх паркаў зацверджана праграма захавання, добраўпарадкавання і аднаўлення старадаўняга парку ў вёсцы Князева Зэльвенскага раёна.**

У ходзе збору звестак аб старадаўнім паркавым комплексе выявілася, што гісторыя маёнтка Князева пачынаецца ад XVI стагоддзя і знаходзіўся ён ва ўласнасці шляхціцаў Вольскіх, гродзенскіх манахінь-брыгітак, а таксама пад кіраваннем дэпартамента казённых маёнткаў. Але найбольш ім валодаў генерал Світы яго Вялікасці, гродзенскі губернатар Аляксандр Зураў, які ў свой час быў кавалерам ордэнаў Святой Ганны і Святога Станіслава 1-й і 2-й ступеняў, адзначаны іншымі ўзнагародамі. Ёсць усе падставы меркаваць, што А. Зураў пачаў сваю дзейнасць менавіта з закладкі парку. У той час толькі яго маёнтак налічваў 1 570 дзесяцін зямлі. Зуравы ж пераехалі ў Гродзенскую вобласць усёй сям'ёй, разам з маці (за якой таксама лічыўся хутар за кіламетр ад маёнтка Князева з вадзяным млынам і сыраварняй), мелі яны і іншыя ўладанні. Да канца XIX — пачатку XX стагоддзяў у іх склалася ўзорная сельская гаспадарка — жывёлагадоўля, авечкагадоўля, мнагапольнае палярводства, вытворчасць сыру, млынарная справа, вінакурня.

Старажылы яшчэ памятаюць месца размяшчэння сядзібнага дома — справа ад алеі, бакавым фасадам да яе. Пасля другой сусветнай вайны флігель, у якім жылі гаспадары маёнтка, быў перанесены на іншае месца, дзе зараз размяшчаецца бібліятэка.

Пасля рэвалюцыі і да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ўладальнікамі маёнтка былі ўдава і сын А. Зурава, прычым пры апошнім парк стаў прыходзіць у заняпад, у ім пасвілі жывёлу, а ў адну з суровых зім вымерзла шмат кустоў ружаў і бэзу экзатычных сартоў.

Чым жа зараз каштоўны старадаўні парк у Князеве?

Гэтае пытанне мы адрасавалі начальніку раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя С. Мікановічу:

— Размешчаны на тэрыторыі 15 гектараў у пейзажным стылі парк каштоўны перш за ўсё сваім дэндралагічным саставам. Сёння тут растуць 25 відаў каштоўных дрэў і шэсць відаў кустоў. Ёсць рэдкія віды ліпы — ліпа драбналістая букетная, амерыканская, буйналістая, вінаградалістая, а таксама чатыры віды клёнаў — востралістывы, востралістывы Швэдэра, серабрысты, серабрысты Віера. Добра прыжыліся тут кедравая сасна, чырвоны дуб, чаромха Магалеўская, чорная сасна, амерыканскі вяз і іншыя. Закладзены ў асноўным у другой палове 90-х гадоў XIX стагоддзя парк пейзажнага тыпу з экзотамі хоць меў значныя змяненні, але ёсць магчымасць з вялікай доляй дакладнасці рэгенерыраваць парк з захаваннем закладзенай першапачатковай планіроўкі.

Адпаведнікі такіх паркаў ёсць як у нашай Гродзенскай вобласці — парк "Руткавічы" ў Шчучынскім раёне, парк саўгаса ""Вярдомічы", так і ў Брэсцкай вобласці — парк "Парэчча" ў Пінскім раёне, парк "Манькавічы" ў горадзе Століне і іншых мясцінах Беларусі.

**Пётр ЖЭБРАК.**
Зэльвенскі раён.



# КАСЦЁЛ...

рамы вокнаў, зваліў крыж, а дах прагніў сам сабой.

Парафіяне неаднойчы звярталіся да расійскага ўрада з просьбай дазволіць адрамантаваць святыню, але ім адмаўлялі. І толькі ў 1906 годзе быў атрыманы дазвол на адбудову касцёла. Але вайна 1914 года і палітычныя закалоты перашкодзілі завяршыць адбудову. У 1921 годзе наваствораны камітэт адбудовы Фары завяршыў рамонт. Дзякуючы ахвярнасці Станіслава Радзівіла і дбанню дойліда Бейла амаль цалкам адноўлена капліца з помнікам Рудаміну.

1 лістапада 1922 года ксёндз-біскуп Мінскі Зыгмунт Лазінскі асвяціў адбудаваную святыню. Ёй была нададзена годнасць катэдры. У 1929 годзе святыня зноў стала парафіяльным касцёлам і была аддадзена пад апеку Ордэна сясцёр Найсвяцейшай сям'і з Назарэта. Яны пачалі выхаваўчую працу з дзяўчынамі. А 26 студзеня 1930 года там нарэшце адбылася першая за шэсцьдзесят гадоў Святая імша.

У 1943 годзе пад канец ліпеня гітлераўцы правялі масавыя арышты сярод тутэйшага насельніцтва; менавіта тады сёстры-назарэтанкі прамовілі знакамітыя словы: "Мой Божа, калі патрэбна ахвяраваць жыццём, дык няхай лепей нас расстраляюць, чымся тых, хто мае сем'і". Ахвяра была прынята. 1 жніўня 1943 года ў лесе за Навагрудкам адзінаццаць сясцёр-назарэтанак аддалі сваё жыццё за людзей. Незадоўга да вызвалення Беларусі 19 сакавіка 1944 года целы замардаваных манашак былі перанесены і пахаваны пры касцёле.

З 1946 па 1956 год за касцёлам прыглядала сястра Малгажата. Разам з іншымі вернікамі малілася аб святары, бо 10 гадоў касцёл не меў пастаяннага пробашча, пакуль з лагера не вярнуўся ксёндз Войцех Навачык. Памёр ён у 1984 годзе, і зноў святыня асірацела.

1 траўня 1984 года душпастырскую працу тут распачаў ксёндз Антон Дзямянтка. У канцы 90-х гадоў парафіяне зрабілі рамонт, наладзілі цэнтральнае ацяпленне. А 6 жніўня 1995 года адбылося ўрачыстае святкаванне 600-годдзя ад часу заснавання касцёла.

Наша славутая святыня жыве, сустракаючы сваімі гістарычнымі мурамі ўсё новых і новых вернікаў ды пілігрымаў, што імкнуцца сюды, каб ачысціцца і ўзвысіцца душою, а таксама шматлікіх вандроўнікаў як з Беларусі, так і з іншых, блізкіх і далёкіх краёў, якія прыязджаюць у ахутаны смугою стагоддзяў старажытны горад Навагародак — першасталіцу колісь магутнай еўрапейскай дзяржавы з межамі ад Балтыйскага да Чорнага мораў, каб адчуць славу і гонар за продкаў, далучыцца да слаўнай беларускай мінуўшчыны.

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**
г. Навагрудак.

**БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД**

# КАШТОЎНАЯ КРЫНІЦА НАШЫХ ВЕДАЎ І АПТЫМІЗМУ

**БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА XX СТАГОДДЗЯ: ФІЛАСОФІЯ, РЭЛІГІЯ, КУЛЬТУРА (АНТАЛОГІЯ).**

**УКЛАДАННЕ, ПРАДМОВА І АПРАЦАВАННЕ ЮРЫ ГАРБІНСКІ. — ВАРШАВА, 1998. — 744 С.**

Гісторыя сведчыць, што практычна заўсёды і паўсюдна на пераломе стагоддзяў многія людзі спрабуюць падвесці вынікі мінулага развіцця, асэнсаваць урокі гісторыі і адначасова зрабіць прагноз на бліжэйшую будучыню. Кожны народ хоча як мага лепей зразумець свае ўласныя вытокі, "карані" і гістарычны лёс, глыбей пазнаць унікальнасць сваёй мовы і духоўнай культуры, высветліць асаблівасці свайго нацыянальнага характару і менталітэту, нарэшце, спасцігнуць сваё прызначэнне, ролю ў свеце і ў Сусвеце.

Звычайна ў працэсе такога своеасаблівага народнага самаспасціжэння і "падвядзення вынікаў" найбольш важную ролю адыгрываюць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі (найперш навукоўцы і літаратары), а таксама актыўныя дзеячы грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. Таму цалкам лагічна і заканамерна, што менавіта ў канцы стагоддзя выходзяць у свет абагульняючыя, фундаментальныя выданні, прысвечаныя аналізу гістарычнага шляху і маральна-духоўнай спадчыны розных народаў свету.

На мой погляд, яскравым адлюстраваннем вышэйназванай агульнай тэндэнцыі можна лічыць і нядаўні выхад у Польшчы (дзіўна, але чамусьці не ў Беларусі!) сапраўды унікальнага выдання — анталогіі беларускай філасофскай, рэлігійнай і культуралагічнай думкі XX стагоддзя. Кніга апублікавана пад грыфам Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук. Рэцэнзентам гэтай працы з'яўляецца польскі даследчык Тэлесфор Пазьняк. Членамі кансультацыйнай Рады выступілі чатыры навукоўцы з чатырох краін свету — доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан і кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан з Беларусі, доктар гісторыі Юрка Туронак з Польшчы, а таксама Лявон Юрэвіч з ЗША.

У анталогіі прадстаўлены як цэлыя творы (кнігі, брашуры, навуковыя і публіцыстычныя артыкулы, нататкі, эсэ і нават вершы), так і асобныя фрагменты з іх 59 беларускіх навукоўцаў, публіцыстаў, пісьменнікаў, грамадска-палітычных і культурных дзеячаў.

У прадмове ўкладальніка кнігі Юрыя Гарбінскага адзначаецца, што анталогія беларускай філасофскай, рэлігійнай і культурнай думкі XX стагоддзя "ўяўляе сабою першую спробу сістэматызацыі і абагульнення ўсяго інтэлектуальнага вопыту прадстаўнікоў краёвай ідэі, свецкай і духоўнай эліт беларускага народу ў кантэксце праблемы Беларусі як эпіцэнтра культурна-цывілізацыйных уплываў Усходу і Захаду". Складальнікі анталогіі разглядаюць друкуемыя тэксты як своеасаблівыя "ключавыя коды, з дапамогай якіх чытач наблізіцца да разумення марфалогіі беларускага этнасу, сутнасці нацыянальнага характару і ментальнасці беларусаў, адметнасці і універсалізму беларускай душы, яе аўры ў перманентным узаемадзеянні з гістарычнымі, рэлігійнымі і культурнымі традыцыямі Усходу і Захаду".

Рэцэнзуемая анталогія складаецца з сямі раздзелаў. У першы пад назвай **"Прарокі нацыянальнай ідэі"**, які, на мой погляд, з'яўляецца цэнтральным, ключавым у кнізе, уваходзяць навуковыя і публіцыстычныя творы вядомых беларускіх гісторыкаў, лінгвістаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Язэпа Лёсіка, Аляксандра Цвікевіча, Ігната Канчэўскага, Уладзіміра Самойлы, а таксама класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага. У іх працах, апублікаваных у пачатку XX стагоддзя, з розных пазіцый разглядаюцца пытанні аб асаблівасцях гістарычнага шляху Беларусі, сутнасці нацыянальна-культурнага адраджэння і нацыянальна-вызваленчага руху на землях Беларусі, аб адметных рысах беларускага нацыянальнага характару і ментальнасці, спецыфіцы этнакультурнай сітуацыі на Беларусі, аб выніках палітычных і культурных уплываў на беларускі народ з Усходу і Захаду і г. д.

Варта адзначыць, што асобныя меркаванні і высновы, зробленыя аўтарамі шмат дзесяцігоддзяў таму назад, захоўваюць сваю актуальнасць і ў сучасны перыяд (напрыклад, думкі вышэйназваных "прарокаў" пра важнасць дзяржаўна-палітычнай незалежнасці Беларусі, умацавання прынцыпаў сапраўднага гуманізму і дэмакратызму ў грамадскім жыцці, пра неабходнасць свабоднага развіцця беларускай мовы, культуры і паступовага пераадолення рэлігійнай "расколатасці" беларускага грамадства, пра патрэбу паглыблення нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і стварэння спрыяльных умоў для рэалізацыі творчых здольнасцей беларускага народа, пра каштоўнасць нацыянальнай еднасці, салідарнасці і супольных намаганняў у абароне сваіх неад'емных правоў, інтарэсаў і да т. п.).

У другім раздзеле **"З пазіцый краёвага патрыятызму"** змешчаны пераважна польскамоўныя артыкулы такіх грамадскіх і культурных дзеячаў, як Раман і Канстанцыя Скірмунты (дарэчы, адзіная прадстаўленая ў анталогіі жанчына), Міхал Ромер, Людвік Абрамовіч і Тадэвуш Урублеўскі. Практычна ўсе гэтыя аўтары, якіх можна назваць "краёўцамі", у сваёй грамадска-палітычнай дзейнасці і ў сваіх працах пачатку XX стагоддзя прытрымліваліся поглядаў т. зв. "краёвага (або "крэсовага") патрыятызму". Сутнасць апошняга праяўлялася ў тым, што яго прыхільнікі добра разумелі палітыка-эканамічныя і этнакультурныя адметнасці беларускага і літоўскага краю, у большасці выступалі за аўтаномію Беларусі і Літвы ў складзе Польскай дзяржавы (праўда, асобныя краёўцы выказвалі ідэі аб праве Беларусі і Літвы на дзяржаўна-палітычную незалежнасць і аб магчымасці аднаўлення былога Вялікага княства Літоўскага). Будучы па сваіх мове і культуры палякамі, краёўцы, тым не менш, звычайна ведалі свае беларускія "карані" і лічылі неабходным увядзенне краёвага самакіравання на беларуска-літоўскіх землях, адукацыі на роднай мове, абвяшчэнне прынцыпаў роўнасці правоў усіх нацыянальнасцей, а таксама заклікалі да супольнай працы на грамадска-культурнай ніве патрыятычна настроеных мясцовых беларусаў, палякаў, літоўцаў, яўрэяў і інш.

Трэці раздзел анталогіі **"У люстэрку нацыянал-камунізму"** складаюць працы вядомых беларускіх палітычных дзеячаў і навукоўцаў Зміцера Жылуновіча, Аляксандра Бурбіса, Браніслава Тарашкевіча, Усевалада Ігнатоўскага, Яўсея Канчара і Паўла Каравайчыка. Большасць з гэтых аўтараў прызнавала важнасць нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі, але ў той жа час яны лічылі, што камунізму і сапраўднага інтэрнацыяналізму можна дасягнуць толькі пасля таго, як у інтарэсах шырокіх працоўных мас (сялянства і пралетарыяту) будзе канчаткова вырашана класавае і нацыянальнае пытанне. Акрамя таго, у трэцім раздзеле прыведзены таксама ўрыўкі з пратакола пасяджэння (снежань 1918 года) прадстаўнікоў І канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б), дзе разглядаліся пытанні ўзаемасувязі нацыянальна-

(Заканчэнне на 9-й стар.).





# ПРЫЙДЗІ, БОЖА, У ЯКІМ ЖЫВЕ



**Вышэйшая духоўная семінарыя заснавана ў Гродне ў 1990 годзе ў памяшканнях бернардзінскага касцёла, пабудаванага ў XVI стагоддзі. Задачай семінарыі стала падрыхтоўка каталіцкіх свяшчэннікаў з улікам мясцовых беларускіх традыцый. Цяпер у рэспубліцы пражывае каля паўтара мільёна веруючых католікаў розных нацыянальнасцей, таму выпускнікі семінарыі могуць весці службу на польскай, бе-**

## «АДЫСЦІ АД ВОПЫТУ КАНФРАНТАЦЫІ І ВАЯЎНІЧАЙ РЫТОРЫКІ»



У мінскім кінатэатры "Перамога" адбылася творчая вечарына вядомай беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч. Сустрэча з чытачамі была прымеркавана да выхаду ў маскоўскім выдавецтве "Остожье" двухтомніка пісьменніцы, у які ўключаны ўсе яе дакументальныя працы — "раманы галасоў", як сама яна вызначыла жанр сваіх кніг. На сустрэчу прыйшлі вядомыя дзеячы беларускай культуры і літаратуры, героі дакументальных твораў.

Па вызначэнні аднаго з выступоўцаў на вечарыне, творы С. Алексіевіч — гэта панарама жыцця савецкага чалавека, але не храналагічная, а гісторыя жыцця душы ў ключавыя моманты XX стагоддзя: Вялікай Айчыннай вайны, распаду савецкай імперыі, чарнобыльскай катастрофы. "Вопыт гэтага жыцця глыбока трагічны, — сказала С. Алексіевіч. — Гэта альбо войны, альбо лагеры. Але мне хацелася паказаць чытачам не жудасці катастроф і войнаў, а тое, што чалавек застаецца сабою, захоўваючы чалавечнае ў самых нечалавечых сітуацыях".

Пісьменніца лічыць, што сёння чалавецтва ўступае ў зусім новую фазу свайго гістарычнага развіцця, калі неабходна адкінуць вопыт процістаяння і барацьбы. На думку пісьменніцы, задача інтэлігенцыі ў гэты складаны час выбару — адысці ад ранейшага вопыт канфрантацыі і ваяўнічай рыторыкі, бо кідаць заклікі да процістаяння і насілля, лічыць яна, сёння надзвычай небяспечна.

## З БУДУЧАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ РЭПРЭСІРАВАНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

**Антон Адамовіч — крытык, літаратуразнаўца, гісторык, празаік, прафесар, доктар філалогіі, грамадскі дзеяч. У 20-я гады — студэнт "рассадніка нацдэмаў" — мінскага Белпедтэхнікума, або, як яго называлі некаторыя, — "Царскага ліцэя". У 30-я яшчэ студэнтам універсітэта ў 20-гадовым узросце Антон Адамовіч трапіў пад першую хвалю "пісьменніцкіх" арыштаў і як "вораг народа" быў асуджаны да пяці гадоў высылкі ў Сібір. Потым тэрмін высылкі быў працягнуты яшчэ на два (атрымалася на тры) гады... У час другой сусветнай вайны Антон Адамовіч — адзін з арганізатараў выдання шэрагу беларускіх газет, часопісаў, кніг, дзе ўпершыню з'яві-**

АНТОН АДАМОВІЧ нарадзіўся 13 чэрвеня 1909 года ў Мінску ў сям'і канцылярскага работніка, але па адукацыі — настаўніка (без адрыву ад працы скончыў мінскі Белпедтэхнікум). У 1918 годзе Антон Адамовіч паступіў у першы клас Мінскай казённай гімназіі. Неўзабаве стаў першым вучнем у класе. Вучоба працягвалася і пры нямецкай, і пры польскай акупацыі. Сямігодку вучань-выдатнік скончыў ужо пры савецкай уладзе. Адначасова з вучобай Антон Адамовіч займаўся (па сутнасці атрымліваў другую адукацыю) у клубе моладзі "Беларуская хатка" (афіцыйная назва клуба — "Мінскае таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва"). Ён размяшчаўся ў будынку былой амерыканскай місіі (цяпер раён Камароўскага рынку). Трэба адзначыць, што за некалькі гадоў існавання "Беларускай хаткі" (з 1916 па 1923 год, калі яна была закрыта бальшавікамі) у тэатральнай, літаратурнай, мастацкай і іншых секцыях, якія працавалі пры ёй, прымалі ўдзел цяпер ужо класікі беларускай драматургіі — У. Галубок, Ф. Аляхновіч, Ф. Ждановіч, Б. Платонаў. Літаратурнай секцыяй кіраваў Якуб Колас, а "вучнямі" ў яго былі: адзін са стваральнікаў "Маладняка" М. Чарот, "першы ссыльны" А. Дудар, паэт-камсамолец, пазней член ЦВК БССР А. Александровіч, будучы адказны сакратар яўрэйскага часопіса "Штэрн" ("Зорка") З. Аксельрод, вядомы тэатральны дзеяч, "купалавец" Я. Рамановіч, сам Антон Адамовіч і інш. Славутым хорам, што існаваў пры "хатцы", у якім спяваў і Антон Адамовіч, кіраваў кампазітар У. Тэраўскі, мастацкую секцыю ўзначальваў Л. Родзевіч... Частымі гасцямі ў "хатцы" былі М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Лёсік, З. Бядуля, Ц. Гартны... Пазней "Беларускую хатку" следчыя з НКУС будуць называць не інакш, як "пункт сосредоточения националистических сил..."

У 1924 годзе Адамовіч стаў студэнтам мінскага Белпедтэхнікума. Разам з ім там пачалі вучыцца будучыя маладнякоўцы (потым "узвышаўцы"): Максім Лужанін, Пятро Глебка, Сяргей Серада (Дарожны), Віктар Казлоўскі, Наталля Вішнеўская і інш. Настаўнічалі ў тэхнікуме Я. Колас, браты Я. і А. Лёсікі, вядомыя прафесары М. Піятуховіч, М. Грамыка, А. Міцкевіч, Я. Бялькевіч, Ю. Дрэйзін, А. Круталевіч... Адначасова з вучобай Антон Адамовіч актыўна ўдзельнічаў у студэнцкім літаратурным гуртку "Крыніца", які выпускаў і свой "літаратурна-мастацкі часопіс" (такой назвы ўдастоіла педтэхнікумаўскае літаграфаванае выданне "Савецкая Беларусь" ад 31 сакавіка 1929 года ў артыкуле "Аб мастацкай літаратуры навучальных устаноў. З Усебеларускай студэнцкай выставы насценгазэт і часопісаў"). Каб зразумець тагачасную атмасферу, якая існавала ў тэхнікуме, прывядзём урывак з аўтабіяграфіі Антона Адамовіча (напісана ў канцы кастрычніка 1935 года ў ссылцы ў Кіраве): *"Безусловно, необходимо остановиться на Белпедтехникуме. В одной из своих литературных работ ("Паўлюк Трус (некралог)" // Узвышша. 1929. № 7; у канцы гэтага ж года з аднайменнай назвай выйдзе адзіная "давысылковая" кніжка Антона Адамовіча. — **Л. М.**) я охарактеризовал техникум того времени как кузницу белорусских литературных кадров <...> На уроках языка нам говорилось, что белорусский язык — самый древний, самый чистый и благозвучный, что Белоруссия вполне может существовать как самостоятельное географическое, экономическое и государственное целое. На уроках истории в печальных красках рисовалось прошлое страны, всячески угнетавшейся её соседями и с запада, и, особенно, с востока, и яркими красками рисовалось счастливое будущее независимой, "незалежнай" Белоруссии. На уроках литературы показывалось славное прошлое белорусской письменности, появившейся раньше, чем у восточных соседей, и в рукописном и в печатном виде (<...> пионер книгопечатания — Франциск Скорина), и также рисовались богатейшие перспективы будущего, в котором белорусская литература необходимо должна стать выше всех существующих и существовавших литератур..."*

ПЕРШЫ артыкул 17-гадовага Антона Адамовіча (надрукаваны пры дапамозе К. Чорнага) — рэцэнзія на кнігу яго аднагодка паэта В. Маракова пад назваю "А дзе ж грамадскасць?" (1926 год).

*"Первую свою рецензию я написал на сборник Валерия Морякова "Пялёсткі" ("Лепестки"). В ней я обвинил этого поэта в идеологической невыдержанности и упадничестве..."* (З аўтабіяграфіі Антона Адамовіча; некаторыя факты ўзяты таксама адтуль.) У 1928 годзе А. Лясны (А. Мардвілка) так ацэніць першую працу крытыка: *"Антон Адамовіч у артыкуле "А дзе ж грамадскасць?" абвінаваціў Валерыя Маракова і ва "ўпадніцтве", і ў "безнадзейным песімізме", і г. д. Палкі крытык зусім забыў, што паэт яшчэ не дасягнуў грамадзянскага паўналецця..."*.

Далей выходзяць рэцэнзіі Антона Адамовіча на кнігу вядомага вучонага прафесара Я. Барычэўскага "Тэорыя санэта" (1927) і на другі зборнік вершаў В. Маракова "На залатым пакосе" (1927).

У пачатку 1928 года часопіс "Узвышша" пачынае друкаваць (па прапанове таго ж К. Чорнага) "спробы манаграфіі аб творчасці" М. Гарэцкага, любімага пісьменніка Антона Адамовіча. У маі 1928-га года на гадавым пасяджэнні літаратурна-мастацкага аб'яднання "Узвышша" Антон Адамовіч стаў яго сябрам. У тым жа годзе ён заканчвае Белпедтэхнікум і "по предоставлению" Наркамасветы, перад якім за яго хадайнічалі М. Зарэцкі і "ўзвышаўцы" М. Лужанін і С. Дарожны, паступае ў БДУ (пасля Белпедтэхнікума адразу на другі курс). У друку з'яўляюцца яго рэцэнзіі на другі том збору твораў М. Багдановіча, кнігі М. Гарэцкага "Жартаўлівы Пісарэвіч" і В. Каваля "Крыніца".

Ва універсітэце Антон Адамовіч пачынае вучыцца разам з А. Звонакам і П. Глебкам. На курс старэйшымі былі А. Бабарэка, К. Крапіва і Д. Дунько. Апошні праз год будзе выключаны з універсітэта (у 1930 годзе высланы ў Сібір) за "распространение на семинаре образа несчастной и страдающей Белоруссии". На другім годзе вучобы Антон Адамовіч паўторыць памылку Д. Дунько. На адным з семінараў ён "преуменьшит значение статьи В. Ленина о Л. Толстом" на той падставе, што У. Ленін не быў прафесіянальным крытыкам або літаратуразнаўцам. Гэтага хапіла, каб 25 ліпеня 1930 года Антон Адамовіч быў арыштаваны. У "амерыканцы" ў той час ужо знаходзіліся Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка, Уладзімір Жылка, Фелікс Купцевіч, Яўхім Кіпель... Апошні пазней успамінаў: *"Яскрава ў памяці стаяць перада мной старэнькія тады ўжо, таксама з клуначкамі, бацькі Антона Адамовіча. Заўсёды яны прыходзілі разам, але ім, мне здаецца, не ўдавалася перадаць перадачы..." (Я. Кіпель. "Эпізоды". — Нью-Йорк, 1998. С. 149).*




У 1931 годзе крытык Сымон Куніцкі, "які перавучыўся" (словы самога Куніцкага аб сабе), у № 2 "Полымя" ("Крытычныя артыкулы Антона Адамовіча як адлюстраванне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі") смела пачаў граміць падследнага (але самога С. Куніцкага гэта не выратавала — восенню 1936 года ён будзе арыштаваны, праз год асуджаны, і далейшы яго лёс застаецца невядомым нават і цяпер).

З пратакола допыту пісьменніка Лукаша Калюгі (1936): *"С критиком Антоном Адамовичем познакомился, когда приехал учиться в Белпедтехникум, когда моя повесть*



# ПРЫЙДЗІ, ЧАЛАВЕЧА, ХРЫСТОС, БУДЗЬ З НАМІ!



**ларускай і лацінскай мовах.**

**НА ЗДЫМКАХ: семінарысты; будынак духоўнай семінарыі ў Гродне; выкладчык семінарыі прафесар, ксёндз Ежы праводзіць харыстыю; у час святочнага снедання; ранішняя малітва.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.**





**ліся матэрыялы, якія сведчылі пра знішчэнне ў 30-я гады беларускай інтэлектуальнай эліты і дзе былі надрукаваны творы раней забароненых, расстраляных або высланых у сібірскія канцлагеры беларускіх пісьменнікаў... Незвычайная атрымалася сітуацыя: пісьменнік у канцлагеры або некалькі гадоў, як ужо расстраляны, а на Бацькаўшчыне друкуюцца яго творы...**

**Потым эміграцыя... Арганізацыя і выданне шэрагу беларускіх газет, часопісаў, кніг, актыўная літаратурная і грамадская дзейнасць...**

**Сёлета Антону Адамовічу споўнілася б 90 гадоў. Да свайго юбілею ён не дажыў менш года...**

# АНТОН АДАМОВІЧ

*"Ні госць, ні гаспадар" уже печаталась в "Узвышшы". Где и когда я встретил его в первый раз — не могу точно сказать: не помню. Возможно, что в редакции газеты "Беларуская вёска", где в это время фактически и помещалась редакция журнала "Узвышша". Позже он что-то собирался писать про мое творчество. Таким образом и познакомились. Заходил несколько раз к нему на квартиру. Там видел Лужанина М., Глебку П., Дорожного С. — узвышевцев, которые вместе с ним учились в Белпедтехникуме и в БГУ. Позже у его родителей колхоз хотел забрать дом (як пазней і адбылося. —* ***Л. М.****), то он, чтобы не вселили в незанятую комнату кого-нибудь, порекомендовал родителям меня, как тихого, спокойного квартиранта, который будет аккуратно платить. Уговорил меня перейти к ним на квартиру, которая ближе к центру, и плату можно будет оставить ту самую, которую я платил на окраине Минска (8 рублей в месяц). Про самого Адамовича знаю, что он много читал, разработал в последнее время перед арестом 1-й том собрания сочинений Гегеля, писал конспект по Гегелю. Временами заходил ко мне в мою комнату. Разговоры были исключительно на литературные темы. Из белорусских писателей хвалил узвышевских — Пущу и Дубовку. Говорил, что так крепко с формальной стороны написанных произведений нет ни у кого из наших писателей. Из русских писателей хвалил формалистов (Виктора Шкловского). Говорил, что хоть его и считают представителем буржуазной литературы, но он "спрытны", ловко пишет. Часто читал мне Вел. Хлебникова, особенно его "заумные", так называемые произведения, как, например, "Устюг Разина". Он очень хорошо читал, и, слушая его, легче воспринимались различные хлебниковские "выкрутасы". На политические темы у меня с ним не было никаких разговоров, и, когда его позже арестовало ГПУ как нацдема, для меня это было полной неожиданностью..."*

У канцы 1931 года Антона Адамовіча высылаюць у г. Глазаў. На этапе ён зноў сустрэнецца з былым вядучым крытыкам "Узвышша" Адамам Бабарэкам (ужо ў пасляваенны час Адамовіч напіша: *"Апошняга майго — без двукоссяў — чалавека, дасягальнага кантакту, думкі й гаворкі — я страціў у асобе Адама Бабарэкі, разлучаны з ім у 1937 г."*) і "кулацкім сынам" Міколам Улашчыкам (за спробу выступу супраць адлічэння якога з Белпедінстытута быў выключаны з камсамола таксама былы "педтэхнікумец" С. Шушкевіч), будучым "чэмпіёнам" (разам з Уладзімірам Дубоўкай) па калькасці арыштаў. На "перасыльцы" ў Маскве Антон Адамовіч стане сведкам шматдзённай галадоўкі Н. Чарнушэвіча...

У *1934 годзе Адамовіча пераводзяць у Вятку (Кіраў). "В Кирове М. Горецкий давал мне читать в рукописи часть своего произведения "Виленские коммунары"* (упершыню надрукавана (часткова) ў 1943 годзе ў "Беларускай газэце" пад назваю "Віленскія змагары". — **Л. М.**), *написанного <...> на русском языке и посылавшегося [им] в журнал "Новый мир"*... (з аўтабіяграфіі Антона Адамовіча). Пасля вызвалення (1938, тэрмін высылкі Антону Адамовічу быў працягнуты яшчэ на два гады) вярнуўся ў Мінск, скончыў БДУ. Працаваў настаўнікам, выкладаў нямецкую мову ў адной з сярэдніх школ г. Мінска. У час другой сусветнай вайны апынуўся на акупіраванай тэрыторыі. З ліпеня 1941 года А. Адамовіч узначальвае выдавецкі аддзел, створаны пры акупацыйнай Мінскай гарадской управе для арганізацыі выпуска газет. Адначасова з'яўляецца галоўным рэдактарам краявога выдавецтва "Менск", узначальвае Беларускае Навуковае Таварыства, апякуецца "Менскай (Беларускай) газэтай", самай буйной на Беларусі ў гады акупацыі. (Пры гэтым Антон Адамовіч дамагае Яну Станкевічу падрыхтаваць і выдаць "Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак", на старонках "Беларускай газэты" вядзе ўрокі беларускай мовы, пад рознымі псеўданімамі друкуе шэраг антыбальшавіцкіх артыкулаў...).

У "Беларускай газэце" ў той час працавалі: У. Казлоўскі (галоўны рэдактар, забіты невядомымі 13 лістапада 1943 года), М. Каваленка, У. Сядура (Глыбінны), М. Целеш, У. Гуцько (Дудзіцкі), Я. Надзюк, Л. Савёнак (Л. Крывічанін), Н. Арсеннева, з газетай супрацоўнічалі А. Лёсік, Ю. Віцьбіч, Ф. Аляхновіч, М. Байкоў, У. Клішэвіч, Х. Ілляшэвіч, Я. Кіпель, Я. Калубовіч, С. Хмара, А. Радзюк (А. Салавей), М. Сяднёў і інш. вядомыя пісьменнікі. Таму і не выклікае здзіўлення, што "один номер "Беларускай газэты" помещал больше информации и информации более разнообразной (адзначым, і якаснай. — **Л. М.**), чем один номер крупнейшей советской газеты на белорусском языке "Савецкай Беларусі" (С. Жумарь "Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны". Мн., 1996. С. 190). 1 жніўня 1942 года ў артыкуле "Шляхам самапомачы і самааховы" ў "Беларускай газэце" Антон Адамовіч вылучыў лозунг: "Ад народнае самабытнасці шляхам народнае самапомачы й самааховы да поўнага самаўраду". Магчыма, тады на Антона Адамовіча асобна "зацікаўленымі бакамі" і было аб'яўлена "паляванне"*. Але пасля 8-гадовага знаходжання ў Сібіры былы ссыльны ведаў "нкусаўскую" хватку і паводзіў сябе вельмі асцярожна.

У красавіку (?) 1944 года Антон Адамовіч пераехаў у Нямеччыну. "Нямецкі" перыяд жыцця пісьменніка (каля 15 гадоў), нягледзячы на цяжкія абставіны, таксама характарызуецца незвычайнай актыўнасцю. У лагеры для перамешчаных асобаў Антон Адамовіч выдае газету "Ведамкі", пазней "Бацькаўшчыну" і інш. Выходзяць яго рэцэнзіі на рукапіс кнігі Н. Арсенневай "Сягоння" (1944), паэмы Л. Случаніна "Рагнеда" (1944), зборнік А. Салаўя "Звіняць званы Святой Сафіі" (1947)... Напісаны грунтоўныя прадмовы да эміграцыйных выданняў У. Дубоўкі ("Gredo", 1949), Я. Коласа ("Новая зямля", 1952), У. Жылкі ("Творы. Да 20-годдзя ўгодкаў смерці", 1953), А. Мрыя ("Запіскі Самсона Самасуя", 1953), Л. Калюгі ("Нядоля Заблоцкіх", 1953), Я. Купалы ("Раскіданае гняздо" і "Тутэйшыя", 1953), М. Кавыля ("Пад зорамі белымі", 1955), Я. Юхнаўца ("Шорах моўкнасці", 1955), М. Сяднёва ("Ля ціхай брамы", 1955)... Рыхтуюцца і так званыя "датаваныя" артыкулы — "Каб так любілі Беларусь" (Да 15-х угодкаў смерці П. Труса), "Usievalod Ihnatouski" (Да 65-годдзя з дня нараджэння У. Ігнатоўскага), "Паўлюк Трус" (да 25-х угодкаў смерці і 50-х угодкаў народзінаў), "Дзесятая гадавіна смерці Кузьмы Чорнага", "30-я ўгодкі заснавання "Узвышша", "Юбілейны год: "Наша доля", "Наша ніва" (1956), "Да 40-годдзя савецкае літаратуры" (1956), "З нагоды 30-х угодкаў дзейнасці Рыгора Крушыны (1957), "Да 40-годдзя Купалавага антыбальшавізму" і "Некаторыя Купалавы балады 1918 г." (1958), "Пяцьдзесят гадоў беларускага адраджэння" (1959), "На ўгодкі Слуцкае бітвы" (1959)... Друкуецца шэраг супрацьбальшавіцкіх рэфератаў, артыкулаў, кніг — "Яны зноў на Беларускай зямлі" (1944), "Арыентацтва — хвароба беларуская" (1944), "Очерки истории большевизма в Белоруссии" (1954), "Саветызацыя беларускай літаратуры" (1955), "Пантэон пісьменнікаў БССР" (1959)... На працягу амаль года друкуе ў "Бацькаўшчыне" манаграфію "Званар Адраджэння — Вацлаў Ластоўскі" (1954)... Выходзяць прасякнутыя нацыянальнай ідэяй і творы самога Антона Адамовіча ("Афрадыта ОСТ", "Каханы горад" і інш., пра якія аўтар пісаў, што "гэта быў проста экспэрымент...", але "экспэрымент", які ён потым хацеў працягваць...).

З 1960 года Антон Адамовіч жыве ў ЗША. Тады ж ён становіцца адным з кіраўнікоў радыёстанцыі "Свабода". Працягваюць выходзіць яго грунтоўныя артыкулы: "Алесь Гарун: жыццё і творы" (1961), "Лірык краіны ветлай (З успамінаў пра Міколу Равенскага" (1961), "70-годдзе Максіма Гарэцкага" (1963), "Да пытання пра месца Францішака Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры" (1964—1965), "Да ўгодкаў Цёткі..." (1966), "Аспекты <...> творчасці Наталлі Арсенневай" (1971), "90 год Купалы й Коласа" (1972), "Успаміны <...> памяці Лявона Савёнка" (1974) і "Успаміны пра Уладзіміра Дубоўку" (1976), "Наталля Арсеннева" (1979), "Як дух змагання Беларусі" (Да 100-х угодкаў нараджэння Івана Луцкевіча. 1981 (?) і шмат іншых. Вывучэнне творчай спадчыны Антона Адамовіча (каля 250 прац, у тым ліку працы на англійскай, нямецкай і рускай мовах) яшчэ наперадзе...

Памёр пісьменнік 12 чэрвеня 1998 года ў адзіноце ў адным з дамоў састарэлых у Нью-Йорку.

У асабістым фондзе Антона Адамовіча, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве, ёсць характарыстыка, напісаная на яго "нейкім" ананімам, дзе робіцца такая высновa: "Он до сих пор всегда лез на рожон... "Незалежность" Белоруссии была у него целью жизни, потерять эту цель [для него] — значит умереть...".

**Леанід МАРАКОЎ.**
**Moryakov@poetry.belpak.minsk.by**

---

* "Писатель Г. Мурашко (Рыгор Мурашка. — **Л. М.**), сотрудник "Беларускай газэты" и "Голасу вёскі" был связан с подпольем... Г. Мурашко подложил в письменный стол А. Адамовича мину, которая не сработала из-за отказа часового механизма". (Сомонов Ф. Не склонивши головы. Мн., 1992. С. 105). Тут трэба ўдакладніць, што яшчэ ў 1931 годзе ("Чырвоная Беларусь". № 2. С. 5.) Р. Мурашка пра правядзенне "Беларускай акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе правапісу" (1926 г.) успомніў так: "На гэтым "з'лёце" нацыянал-дэмакраты даходзяць да такое ступені нагласці і нахабства, што выносяць з залі пасяджэння бюст Леніна..." Як жа такога "абаронцу Леніна" так блізка да сябе "падпусціў" Антон Адамовіч? Відаць, ён лічыў, што Р. Мурашка, як і многія ў 30-я гады, нярэдка пісалі адно, а думалі другое, часта процілеглае.

НОВАЯ РУБРЫКА

# Я і МОВА

ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ! З гэтага нумара мы распачынаем новую рубрыку "Я і мова". Я ёсць я — так, напэўна, можа сказаць пра сябе кожны свядомы носьбіт беларускай мовы, бо вернасць ёй патрабуе быць індывідуальнасцю, асобай.

Шлях да мовы, да адчування роднасці са сваім народам, яго тысячагадовай гісторыяй і культурай у кожнага, бадай, быў асабістым, у нечым адметным. Адным яна дасталася лёгка, разам з малаком маці і чутай у калысцы калыханкай, іншыя прыходзілі да ўсведамлення сваёй нацыянальнай годнасці ўжо ў сталым узросце. Адным такое самаўзвышэнне даецца лёгка і проста, іншым — з адчуваннем пэўнай няёмкасці і дыскамфорту. Але набыты тут асабісты вопыт — аднолькава цікавы і значны, бо ён прызначаецца для асэнсавання сябе часцінкай народа.

Такім чынам, "Я і мова" — гэта своеасаблівы перазоў галасоў людзей, выказаны найчасцей у кароткай форме ці то як уласная споведзь, ці аповед пра іншага, пра сваё разуменне моўных праблем, адчуванне спецыфікі, ці то сакавітага народнага ці літаратурнага слова. Хто мае магчымасць, заходзьце ў рэдакцыю, тэлефануйце, звяртайцеся да вядучага гэтай рубрыкі — паразмаўляем і аформім гаворку як кароткае інтэрв'ю.

Калі ўзнікла задума распачаць рубрыку, паўстала пытанне, а каму даць першаму слова. Рашэнне было адназначным: Максіму Лужаніну, які, дарэчы, дваццаць гадоў таму назад распачаў тэлечасопіс "Роднае слова". На сёння, лічым, гэта самы аўтарытэтны па ўзросту і зробленаму ў літаратуры як сродку самавыяўлення ў мастацкім слове, носьбіт беларускай мовы. Напрыканцы года, стагоддзя і тысячагоддзя шаноўнаму Аляксандру Амросьевічу Каратаю (так гучыць сапраўднае імя і прозвішча слыннага Майстра) споўніцца дзевяноста. Калі я звярнуўся да яго з просьбай напісаць некалькі старонак пра мову, наш старэйшына не стаў адмаўляцца: "Ведаеш, братка, даў слова не пісаць і не гаварыць нічога па просьбе з рэдакцый, але зарок парушу, бо мова — гэта святое!". Вернасць гэтаму святому, крынічна чыстаму пісьменнік годна панёс праз усё жыццё: будучы сябрам "Маладняка" і "Узвышша", адбываючы высылку, змагаючыся з фашысцкай навалай, будучы вельмі блізкім да Якуба Коласа чалавекам, пра што ён напісаў выдатную унігу "Колас расказвае пра сябе". А пра мову, пра гэты незвычайны цуд — яго кнігі "З ранку да вечара", "12 вячорных вогнішчаў", "Вачыма часу", "Трое". Трапяткое адчуванне слова і мовы, як пераконваемся, засталося ў пісьменніка назаўсёды.

Генадзь Шары, архітэктар, начальнік Дзяржаўнай экспедыцыі па выратаванню помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС раёнах, — прадстаўнік зусім іншага пакалення, прафесіі і лёсу, але і для яго ўласцівае тонкае адчуванне патаемнай тканіны слова. Так, як ён, яшчэ пра мову не пісалі.

А ў наступных нумарах газеты — сустрэчы з іншымі носьбітамі мовы. Кожны з іх цікавы па-свойму. Так што далучайцеся, шаноўныя, да нашага сапраўды народнага хору галасоў.

**Яўген ЛЕЦКА.**



*У час экспедыцыі: Генадзь ШАРЫ з паляшучкамі.*

# Максім ЛУЖАНІН:

# «ДЫ НЕ ПАБАЯЦЦА СВАЙГО СЛОВА»

У ТЫЯ далёкія часы, што ўжо здаюцца праз невымерную адлегласць сваю ад сённяшніх як быццам нябытымі і не чутымі мне, дый не толькі мне, уяўлялася, нібыта ўсё навакольнае ў свеце размаўляе паміж сабою. Лісціна ласкава штохвілі шэпча штосьці адна да адной, каласы, тужэючы і наліваючыся, шапацяць сусед да суседа. Гонка гамоніць вялізны ўзрушаны прастор, перагаворваецца "вольным гоманам хвоек высокіх" (Купала), "думкі думае прастор" (Колас). Значыць і яны, неабсяжныя, заселены разумнымі жывымі істотамі.

Гэтаму дзіцячаму думанню кожны дзень дадаваў поўнасці і падмацунку. Штораніцы, беручыся за лейцы, бацька казаў: "Пара, *малая!" І наша буланка, страсянуўшы* мух са спіны, улягала ў хамут. А малы стрыгунок кідаўся за возам услед і трывожна ржаў. Значыць, чуюць жа адно аднаго! Толькі як разумеюць: што за пошапты і поклічы да скіраваных і запрэжаных у дарогу.

Рычард Бэртан гаворыць: Біблію яму куды цікавей чытаць па-свойму, па-валійску, і заяўляе: "Я цвёрда ведаю, што такая малюсенькая нацыя, як мы, будучы не лепей і не горай за іншыя, усё ж адрозніваецца ад другіх і хоча застацца сама сабой."

Праз што ідзе шум ва Уэльсе? — пытае і адказвае Бэртан: "Апрача натуральнага энтузіязму маіх суайчыннікаў і паўсюднага жадання моладзі наладжваць дэманстрацыі, апрача ўсеагульных студэнцкіх хваляванняў ад Каліфарнійскага універсітэта, апроч усяго гэтага, у бунтоўна настроеных студэнтаў-валійцаў ёсць яшчэ адзін лозунг —лозунг пра захаванне валійскай мовы".

Вышэй мы прыгадалі пра змаганне ірландскіх патрыётаў за культуру мовы. На час нацыянальнага паўстання (1916 года), кажуць, у краіне гаварыла па-ірландску толькі каля пяці соцень асоб. Не будзем пералічваць, чаго дамаглася Ірландыя, пашкадуем толькі, што там ідзе братазабойчая вайна. Каб аб'ядналіся ірландцы, адкінуўшы рэлігійныя супярэчнасці, даўно б сказалі "Бывай" і так ужо не вельмі вялікай у параўнанні з недалёкім мінулым Вялікабрытаніі. Як жа не схіліцца і не падзякаваць свабоднай ірландскай мове!

Прыгадаем яшчэ пра Авечыя астравы (рэгіён Нарвегіі). Не больш за сто гадоў спатрэбілася гэтай згубленай у акіяне зямлі, каб арганізаваць Акадэмію навук, выдаць больш за тры дзесяткі кніг, газет і часопісаў і іншых атрыбутаў культуры і дзяржаўнасці.

Моваю пішуцца кнігі, а кнігі, як не мною ці не раз казана, не гараць. Не прадбачу такога лёсу кнігам нават падчас так званага канца свету.

Хіба можна ўявіць, што знікнуць, захлынуцца ў ярме і навале "Песня песняў" — вечныя спевы кахання, мудрасці і адвагі.

Не будзем падымаць голасу ў абарону іншых скарбаў чалавецтва, падступім бліжэй: пачатак XIX стагоддзя пазначаецца двуматрыма дзесяткамі кніг, блізкіх да беларускіх і беларускіх (Бяссонаў, Шэйн, Раманаў, Сержпутоўскі, Нікіфароўскі, Насовіч). Высветлілася, што гэтай беларусікі хапіла да нашых дзён і выхавалася на ёй не адна тысяча людзей. Творы ішлі ў народ, перапісваліся, спяваліся, пераказваліся.

Зараз паліцы маёй бібліятэкі застаўлены сотнямі экцыклапедычных нацыянальных выданняў на чале з энцыклапедыяй "Беларуская мова". Яна ахапіла галоўнае — зараджэнне, асаблівасці, адметнасці мовы. Ахапіла настолькі, наколькі хапіла сілы ў цяперашняй навукі.

Але ж поступ! Агромністы поступ.

Можна і трэба даравац складальнікам, аўтарам, рэдактарам не заўсёды ўдалыя персаналіі.

Магчыма, лепш было адыходзіць не ад характарыстыкі пісьменніка, а ад моўнай практыкі і ўмельства таго ці іншага аўтара карыстацца мовай, рушыць яе паперад у сэнсе пашырэння лексікі, а таксама ў асвятленні і ачышчэнні фразеалогіі. Для гэтага патрэбны даследаванні і даследчыкі перадусім. Сэнс артыкулаў, па-мойму, у тым, каб паказаць, як і чым пісьменнік у сваёй рабоце дапоўніў, пашырыў, узбагаціў, падчысціў мову, ды не пабаяўся свайго слова, чутага і прыдуманага.

Купала і Колас сваёй агромнай здольнасцю служылі гэтай мэце, малявалі вобразы людзей і навучалі таму малодшых. Чорны з Коласам — незраўнаныя філолагі з выключным майстэрствам выяўляць і падкрэсліваць адценні слова.

Мову трэба рабіць чыстымі рукамі.

Гуртам.

Травень 1999 г.



У маім дзіцячым прыслухоўванні, як абзываюцца між сабою насельнікі свету, як можна зразумець нейкі пададзены гук давалі рады радкі: "Ночь тиха, пустыня внемлет Богу, и звезда с звездою говорит" (Лермантаў). І яшчэ бліжэйшыя, больш загадкавыя "думкі думае прастор" (Колас).

Гэта выклікала думкі аб бясконцасці, аб спрадвечным існаванні, і роўным Богу задуманы прастор, маляваўся перад вачыма.

Прасцей і ярчэй падумала падслуханая Буніным у Чэхава дзяўчынка пра мора: "Море было большое".

Лепей не скажаш пра мову: "Мова вялікая". Мова — магутная, мова — усёўладная, мова — радасць, захапленне, утрапенне, боль. І колькі мільярдаў самапісак ні прымусь запісваць азначэнне мовы — ніяк не ўправяцца, не стане магчымасцей. Нават калі адны даброты лічыць: агонь — награвальнік, і ён жа знішчальнік, нож — зброя і — прылада працы. Ды яшчэ многія тысячы знойдзеных, названых, выкарыстаных, знішчаных чалавекам рэчаў.

Мова! Вось магутнасць яе. Паслухаем людзей:

"Родную мову, як на маё перакананне, нічым замяніць нельга... Машынны век бязлітасна знішчыць нашу мову, калі зараз мы не пачнем змагацца за яе, як ільвы..." Гэты славуты галівудскі акцёр

# ВЕЧНАЕ ДРЭВА...

**Генадзь ШАРЫ**, архітэктар.

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ аварыя стала той мяжой, ад якой пачынаецца для нас, беларусаў, адлік у прасторы і часе. І не выпадкова, што гэты час зафіксаваны ў сакральных летапісах і супадае з рубяжом тысячагоддзяў, а кропка на целе зямлі прыйшлася акурат на "чорны быльняк".

Услухоўваючыся ў жудасную цішыню пакінутых хат пустой чарнобыльскай вёскі, асабліва востра адчуваеш Слова, і ўсплываюць у памяці тыя першыя гукі, з якіх усё пачалося.

Яшчэ і сёння тут можна знайсці паўсатлеўшыя шматкі ручнікоў, што віселі над абразамі ў покуце. Гэта — набожнікі. Сакральныя ручнікі. Сакральныя знакі. Яны вабяць, чаруюць. Разгадка іхняй таямніцы заблыталася ў вяках. Сёння, напрыканцы другога тысячагоддзя, гэтыя знакі патрабуюць ад нас, сучаснікаў, угледзецца ў гэтыя ўзоры, услухацца ў ціхую мелодыю мовы і прасачыць шлях, які наканавана было нам прайсці з пачатку пачаткаў.

У гісторыі, як і ў прыроды, часам бывае такая з'ява: д'ябал выкідвае недарэчную, але ўяўную рэч, якая ўшчамляецца ў глебу, абрастае мохам і становіцца як бы арганічнаю часткаю прыроды. Але вядома, што камень карані пусціць не здольны. Рана ці позна глеба яго выштурхне.

Тое ж адбываецца і з назваю нашай зямлі. У нейкі перыяд мы сталі "беларусамі". Гартаючы пажоўклыя старонкі гісторыі, расчышчаючы напластаванні на старажытных рукапісах, прыходзіш да высновы, што зацвярджэнне назвы "Белая Русь" на карце старажытнай Еўропы адбылося як палітычная акцыя ў перыяд гвалтоўнай "хрысціянізацыі". Не адмаўляючы ролі гэтага працэсу, які, дарэчы, працягваўся не такі ўжо доўгі перыяд, тым не меней, нельга не ўлічваць тысячагоддзі, на працягу якіх складваўся этнас. На жаль, як зусім яшчэ нядаўна гісторыкі лічылі, што з 1917 года ў гісторыі чалавецтва пачалася "новая эра", так і сёння афіцыйная навука сцвярджае, што карані нашы не ідуць глыбей, чым у V стагоддзе.

Звычайна ў навуковай і папулярнай літаратуры з'яўляюцца звесткі, што часам узнікнення таго ці іншага населенага пункта лічыцца год першай згадкі аб ім у летапісе. З гэтае даты пачынаецца храналагічны адлік і вызначаецца ўзрост, святкуюцца юбілеі Навагрудка, Турава, Полацка, Крэва, Менска і г. д. Ці ж не бязглуздзіца гэта? Па такому ж прынцыпу адбываецца падсвядомае атасаямленне падзеі ўзнікнення дзяржавы з працэсам фармавання этнасу.

Не. Закон прыроды сцвярджае ісціну: калі ёсць з'ява — ёсць і назва. З'ява ёсць. Назва — была. Якая? Археалагічныя раскопы тут не дапамогуць. Рана ці позна матэрыял рассыпаецца ў пыл. А пачатак з'явы такі далёкі і глыбокі, што і пыл гэты рассеяўся па сусвеце. Што рабіць? Вось тут на дапамогу і прыходзіць Слова.

З'ядае золата іржа,
і тлее сталь.
Не падуладна часу
толькі мова.
Балюе смерць
на свеце белым баль.



*Скарбы Нараўлянскага раёна.*



Жыць будзе вечна
велічнае Слова!

Г. Ахматава.
Пераклад аўтара.

Пішуць, што Слова — гэта Бог. Але ж Слова — гэта і гук. Напачатку гук — яшчэ не Слова. Давайце ўслухаемся. Гук "я" — найстаражытнейшы. З яго пачынаецца мова. З "я" да нашага старажытнага продка прыйшло ўсведамленне сябе як асобы. Гук стаў найменнікам. А калі ў супляменнікаў Правадыра з'явілася патрэба звярнуцца да яго, узнікае слова Ян (Ён). Так пачынаецца этнас. Так фармуецца мова. Цікава, што імя Ян (Янка) захавалася толькі ў Цэнтральнай Еўропе. На Усходзе яно стала Іванам, Іоанам, на Захадзе — Ванам, Вэнам, Жанам, Джонам і г. д. У нас гэтае імя, як і большасць слоў, засталося ў той першазданнай чысціні, у якой нарадзілася. Гэта сведчыць аб ягоных глыбінных каранях. Тое ж тычыцца і найменніка Яна (Яня). Заўважце, лічэбнік "адзін" і на англійскай, і на нямецкай мовах сугучны гэтай фанеме (Правадыр жа быў — адзін).



*Неўміручае дрэва.*

Сучасная этымалагічная навука ў асноўным грунтуецца на фанемах, якія склаліся пасля ўзнікнення пісьма, і паўтараюць не тыя першасныя гукі, на аснове якіх фармавалася мова, а транскрыпцыю літараў алфавіта, узнікшага ў недалёкія ад нас часы. Менавіта з гэтае нагоды адбываецца такое адвольнае тлумачэнне паходжання слоў і паняццяў.

Возьмем фанему "ю" — люты, раз'юшаны. Зразумела — гэта гук небяспекі. Старажытная назва мядзведзя — юрша. Як антонім гэтаму гуку, значна пазней, калі свядомасць продка ўзрасла, каб звярнуцца да неба, узнікае гук "лі", які з цягам часу набывае характар рытуальнага. Гэта — першыя зачаткі рэлігіі, просьба аб літасці.

Такім чынам, у племя ўзнікаюць першыя рытуальныя традыцыі. Племя набывае назву "літва".

Значна пазней, з паглыбленнем традыцый, узнікае паняцце і слова "сумленне". Ягоная канструкцыя нагадвае рускае "совесть" — тыя ж прыстаўкі "со" і "су", але карані розныя. На ўсходзе — весть-веды-истина. Актыўны пошук ісціны. Менталітэт, характар усходніх плямён. У ліцвінаў — сумленне, маленне, малітва, просьба аб літасці.

Мы ж ніколі ні на кога не нападалі. Толькі бараніліся, прасілі літасці.

І — дзіва! Колькі нас ні палілі, ні вынішчалі, ні далучалі і разлучалі, мы — жывыя?! Яшчэ і сёння на Палессі людзі размаўляюць на роднай сакавітай мове, жывуць традыцыі.

Надта ўжо глыбокія карані нашыя, і незалежна ад нас сённяшніх імкнуцца на паверхню глебы жыватворчыя сокі, і з асноўных парасткаў узрастае вечнае дрэва.



*Постаці продкаў.*



*Баба-камень.*

БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД

# КАШТОЎНАЯ КРЫНІЦА НАШЫХ ВЕДАЎ І АПТЫМІЗМУ

дзяржаўнага будаўніцтва і культурнага развіцця Беларусі.

У чацвёртым раздзеле **"Вехі беларускага фундаменталізму"** прадстаўлены працы беларускіх рэлігійных дзеячаў (у большасці каталіцкіх святароў) Казіміра Сваяка, Уладзіслава Талочкі, Альбіна Стаповіча, Адама Станкевіча, Вінцука Гадлеўскага і інш., якія асэнсоўваюць розныя складаныя пытанні этнакультурнага і канфесійнага жыцця беларускага народа ад старажытнасці да першай трэці XX стагоддзя. Аўтары змешчаных тут артыкулаў адзначаюць важную ролю хрысціянства ў станаўленні і гістарычным развіцці беларускага этнасу, спыняюцца на праблемах узаемаадносін паміж рознымі хрысціянскімі канфесіямі (каталіцтва, праваслаўе, уніяцтва), на асаблівасцях маральна-духоўнага жыцця і рэлігійнай свядомасці насельніцтва Беларусі, а таксама спрабуюць прадвызначыць значэнне рэлігіі ў будучым развіцці беларускага грамадства. Аднак хацелася б заўважыць, што назва данага раздзела з'яўляецца, на мой погляд, даволі спрэчнай і не надта ўдалай, бо ў сучасным разуменні тэрмін "фундаменталізм" звычайна атаясамліваецца з непахісным рэлігійным традыцыяналізмам, кансерватызмам, а часам і адкрытым шавінізмам, непрыхільнасцю да іншаверцаў. А гэтага, зразумела, ніяк нельга сказаць пра большасць прадстаўленых у выданні беларускіх святароў першай паловы XX стагоддзя, якія, наадварот, нярэдка выказвалі "нетрадыцыйныя" ідэі і меркаванні экуменічнага характару.

У пятым раздзеле **"На разломах вайны"** ўвазе чытачоў прапануюцца малавядомыя ці зусім невядомыя працы такіх палітычных і грамадскіх дзеячаў, як Усевалад Верас, Уладзіслаў Казлоўскі, Вацлаў Іваноўскі, Антон Адамовіч і інш. У сваіх артыкулах, напісаных і апублікаваных у перыяд другой сусветнай вайны, названыя аўтары выказваюць уласныя погляды і меркаванні (часам, дарэчы, вельмі нечаканыя і спрэчныя) наконт адметных рысаў нацыянальнага жыцця і народнай свядомасці, прычын мінулых цяжкасцей у нацыянальна-культурным і моўным развіцці беларускага народа, найлепшых шляхоў пераадолення разнастайных перашкод палітычнага, эканамічнага, этнарэлігійнага і культурнага характару.

У шостым раздзеле **"Беларуская думка на эміграцыі"** змешчаны публіцыстычныя творы дзеячаў беларускай эміграцыі Часлава Сіповіча, Льва Гарошкі, Станіслава Станкевіча, Вітаўта Тумаша і інш., у якіх яны разглядаюць пытанні аб сутнасці беларускага патрыятызму, найбольш істотных адметных рысах беларускай культуры, аб уплыве хрысціянства на развіццё беларускага народа, асновах беларускага гістарычнага працэсу. Сярод аўтараў гэтага раздзела — рэлігійныя і грамадскія дзеячы, навукоўцы, пісьменнікі, якія нарадзіліся на этнічных землях Беларусі, але пазней па розных прычынах, найперш палітычных і ідэалагічных, свядома ці вымушана апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, у эміграцыі (пераважна ў краінах т. зв. "далёкага замежжа"). Таму і не выпадкова, што ў многіх творах беларусаў-эмігрантаў яўна адчуваецца туга па сваёй Радзіме, імкненне глыбока разабрацца ў асаблівасцях беларускага гістарычнага шляху, у адметных рысах светапогляду, нацыянальнага характару беларусаў.

Увогуле, каштоўнасць меркаванняў і думак дзеячаў эміграцыі ўзрастае яшчэ і па той прычыне, што яны прапануюць у сваіх працах своеасаблівы "погляд збоку", звычайна арыгінальны, глыбокі і даволі прыкметна адрозны ад "погляду знутры" тых аўтараў, якія ўсё сваё жыццё пражылі на роднай зямлі. Напрыклад, каталіцкі святар Часлаў Сіповіч у артыкуле "Асновы беларускага патрыятызму" (1947) лічыць галоўнымі складаючымі часткамі беларускага патрыятызму Бога, Бацькоў і Бацькаўшчыну, а таксама вылучае такія тры адхіленні ад сапраўднай любові да Радзімы, як вузкі нацыяналізм (або шавінізм), касмапалітызм і камуністычны інтэрнацыяналізм, вырачэнне сваёй Бацькаўшчыны (або рэнегацтва). А, скажам, рэлігійны дзеяч, гісторык Леў Гарошка слушна лічыў важнейшай умовай для ўсебаковага развіцця чалавека і ўсяго грамадства пастаяннае ўзаемадзеянне рэлігіі, культуры і навукі.

У апошнім, сёмым раздзеле **"У пошуках альтэрнатывы і дыялогу"** друкуюцца навуковыя і публіцыстычныя працы сучасных беларускіх вучоных і літаратараў Аляксея Каўкі, Альфрэда Майхровіча, Уладзіміра Конана, Міколы Крукоўскага, Аляксея Рагулі, Леаніда Лыча, Юркі Туронка, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Ніла Гілевіча і інш. Гэтыя аўтары з розных пазіцый аналізуюць надзвычай складаныя і вострыя пытанні гісторыі Беларусі, этнічнага, моўна-культурнага і рэлігійнага развіцця беларускага народа, грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў сённяшняй Беларусі. Бадай, усіх іх аб'ядноўваюць шчырая павага і любоў да сваёй роднай Бацькаўшчыны, заклапочанасць сучасным станам беларускай мовы і ўсёй нашай культуры, разуменне надзвычайнай важнасці захавання дзяржаўна-палітычнай незалежнасці Беларусі і ўмацавання дэмакратычных асноў грамадскага жыцця, усведамленне асабістай адказнасці за будучы лёс нашай суверэннай краіны.

Увогуле, трэба адзначыць, што большая частка апублікаваных у анталогіі работ раней ужо друкавалася ў беларускіх, польскіх і расійскіх навуковых, перыядычных выданнях, а таксама ў эмігранцкім друку. Асобныя матэрыялы ў даным зборніку апублікаваны ўпершыню. У канцы кнігі падаюцца падрабязныя каментарыі, імянны паказальнік (на беларускай і польскай мовах), спіс асноўных скарачэнняў, бібліяграфія (на беларускай, рускай, польскай і інш. мовах), а таксама рэзюме (на рускай, польскай і англійскай мовах).

Даволі цікавым з'яўлецца той факт, што ўзрост аўтараў анталогіі вельмі моцна адрозніваецца — ад таленавітых дваццаці—дваццаціпяцігадовых юнакоў (М. Багдановіч, М. Гарэцкі, І. Канчэўскі і інш.) да сталых, з вялікім жыццёвым вопытам навукоўцаў і грамадска-культурных дзеячаў. Калі сказаць больш дакладна, то найвялікшая розніца ва ўзросце складае прыблізна палову стагоддзя. Часам можна заўважыць, што малады ўзрост некаторых аўтараў абумоўліваў своеасаблівы юнацкі рамантызм, віддавочную эмацыянальнасць, хаця ў іншых выпадках (напрыклад, І. Канчэўскі) творы асобных маладых філосафаў, публіцыстаў вызначаюцца незвычайнай глыбінёй думкі, яснасцю і дасканаласцю.

Зразумела, што не ўсе напрамкі і жанры філасофскай беларускай думкі прадстаўлены ў анталогіі. Напрыклад, у сучасны перыяд на Беларусі існуюць і нетрадыцыйныя, умоўна кажучы, мадэрнісцкія і постмадэрнісцкія філасофскія накірункі, асноўнымі прадстаўнікамі якіх можна лічыць В. Акудовіча, Ю. Барысевіча, С. Санько і інш. Натуральна, што ўспрыманне "традыцыйнымі" інтэлектуальнымі коламі такіх напрамкаў неадназначнае — ад пазітыўнага да раўнадушнага, абыякавага і нават відавочна негатыўнага. Магчыма, было б лагічным, каб у перспектыве была выдадзена спецыяльная анталогія, якая б больш-менш поўна прадстаўляла адметныя рысы беларускай філасофскай і культуралагічнай думкі напрыканцы XX стагоддзя.

У цэлым рэцэнзуемая кніга як бы "звязвае" набыткі мысляроў мінулага і сучаснасці і стварае своеасаблівы падмурак для прац будучых пакаленняў айчынных даследчыкаў. Паколькі многія апублікаваныя тут навукова-публіцыстычныя працы беларускіх філосафаў, культуролагаў з'яўляюцца надзвычай актуальнымі ў сучасны перыяд, таму можна, відаць, спадзявацца, што найлепшыя ўзоры беларускай думкі XX стагоддзя паслужаць своеасаблівым арыенцірам або "пуцяводнай зоркай" для тых патрыятычна настроеных грамадзян (асабліва сённяшняй моладзі) Беларусі, якім будзе наканавана лёсам плённа працаваць на карысць нашай Бацькаўшчыны ўжо ў наступным, XXI стагоддзі, а адначасова і ў новым, III тысячагоддзі.

На заканчэнне хацелася б прывесці па-сапраўднаму прарочыя словы аднаго з найбольш самабытных і глыбокіх беларускіх філосафаў першай паловы XX стагоддзя Уладзіміра Самойлы, які ў сваіх нарысах "Гэтым пераможаш!.." (1924) сцвярджаў, што "права на народную зямлю, на сваю Бацькаўшчыну, на сваю мову, культуру, на самавызначэнне, на вольнае развіццё, нацыянальнае аблічча і г. д. — усе гэтыя правы... трэба падтрымліваць заўсёды напружанай энергіяй, вечнай духовай актыўнасцяй, як быццам сапраўды кожную часіну заваёвываць нанова...". Акрамя таго, аўтар слушна лічыць, што "пачуццё духовае самабытнасці і яго маральнае абаснаванне духова-працоўнай, свядоматворчай актыўнасцю Беларускага народа і павінна быць пакладзена ў аснову новага ўсенароднага нацыянальнага ўзгадавання". На мой погляд, прыведзеныя словы (як, дарэчы, і многія іншыя думкі з названай анталогіі) маглі б стаць своеасаблівым запаветам нашых мудрых продкаў сваім удзячным нашчадкам.

Спадзяюся, што рэцэнзуемая кніга знойдзе свайго ўважлівага і зацікаўленага чытача не толькі сярод даволі вузкага кола сённяшніх беларускіх інтэлектуалаў, але і сярод многіх навучэнцаў, выкладчыкаў, літаратараў, грамадска-палітычных і культурных дзеячаў і інш. Выказваючы шчырую падзяку і ўдзячнасць складальнікам і выдаўцам за праведзеную вялікую і плённую працу, за такі істотны і важкі інтэлектуальны "падарунак" усім свядомым беларусам, варта падкрэсліць, што ў далейшым гэтая сапраўды унікальная кніга можа служыць як падмуркам для навуковых пошукаў, так і падставай для разнастайных творчых абмеркаванняў і плённых дыскусій.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**вядучы навуковы супрацоўнік**
**Нацыянальнага**
**навукова-асветнага цэнтра**
**імя Ф. Скарыны**
**пры Міністэрстве адукацыі РБ.**

Заканчэнне.
Пачатак на 5-й стар.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# ПАШПАРТ ЛІТОЎСКІ, ДУША БЕЛАРУСКАЯ



**У 1996 годзе па ініцыятыве кіраўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы ў Вільнюсе прайшоў з'езд, на якім адбылося аб'яднанне гэтых арганізацый у Згуртаванне беларускіх суполак. Прэзідэнтам згуртавання абраны добра вядомы як у Літве, так і ў Беларусі заслужаны артыст і заслужаны дзеяч мастацтваў Яўген МУРАШКА. Нядаўна мне ўдалося сустрэцца з ім і пагутарыць пра актуальныя праблемы ў дзейнасці згуртавання, пра сённяшні дзень беларускай дыяспары ў Літоўскай Рэспубліцы. У пачатку размовы мы крыху ажывілі падзеі трохгадовай даўніны.**

**— Ці спраўдзіліся спадзяванні, што дзейнасць беларускіх суполак у Літве пасля стварэння згуртавання атрымае новы імпульс?**

— Безумоўна, так. У 1996 годзе, аб'ядноўваючыся, мы разлічвалі, што ўсім арганізацыям, якія дагэтуль кантактавалі з намі, стане зручней супрацоўнічаць і эфект ад гэтай дзейнасці павялічыцца. І мы не памыліліся. Нам стала лягчэй арганізоўваць агульныя мерапрыемствы. Праца прыкметна актывізавалася. Хаця, успамінаючы зараз 96-ты год, неабходна заўважыць, што не зусім простым і адназначным было тады рашэнне аб аб'яднанні пад агульным дахам. Вы, мабыць, ведаеце, што толькі 13 суполак сталі членамі згуртавання. На жаль, у прадстаўнікоў некаторых арганізацый пазней узніклі нейкія амбіцыі, у выніку чаго да нас не далучыліся Таварыства беларускай культуры і Згуртаванне беларускай моладзі Віленшчыны. Апошняе, дарэчы, вельмі кепска сябе зарэкамендавала і асабліва яго старшыня...

**— Вы маеце на ўвазе крадзеж флага Вільнюса?**

— Так. Пра тое прыкра і нямёмка нават успамінаць. І яшчэ адна невялікая арганізацыя не далучылася — Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, тым больш, што яна — частка Польскай арганізацыі выбарчай. Але гэта больш палітызаваная арганізацыя, чым культурна-асветніцкая. Такім чынам, пералічаныя суполкі не ўвайшлі ў састаў згуртавання. Але, нягледзячы на гэта, да мінулага года, пакуль Таварыства беларускай культуры не склікала ад свайго імя так званы З'езд беларусаў Балтыі, мы трымалі добрыя сувязі. Аднак пасля таго, як гэтае мерапрыемства адбылося, куды нас, дарэчы, запрасілі ў якасці гасцей (!), мы крыху пакрыўдзіліся.

**— Беларусы Літвы ў асобе згуртавання атрымліваюць якую-небудзь дапамогу з боку мясцовых уладаў?**

— Адносіны літоўскіх уладаў да беларускіх суполак заўсёды былі прыязнымі і спрыяльнымі. Але калі раней нам давалі дробныя датацыі на кожную суполку, то цяпер гэтая дапамога ідзе цэнтралізавана. І галоўнае, улады ўбачылі, куды ідуць грошы падаткаплацельшчыкаў. Яны пераканаліся, што мы актыўна дзейнічаем і з'яўляемся годнай часткай літоўскага грамадства, тым больш, што значная колькасць актывістаў суполак — грамадзяне Літвы. Цяпер жа мы атрымліваем грашовую дапамогу ад Міністэрства культуры і Дэпартамента рэгіянальных праблем і нацыянальных меншасцей. Так, летась мы атрымалі 3,5 тысячы літаў (прыкладна 900 долараў ЗША) на арганізацыю Свята беларускай песні і наогул на правядзенне іншых нашых мерапрыемстваў было пералічана Міністэрствам культуры 8 тысяч літаў (прыкладна 2 000 долараў ЗША). Зразумела, калі ўлічыць, што беларускія суполкі праводзяць нямала імпрэз рознага кшталту і займаюцца актыўнай культурнай дзейнасцю, то гэтых грошай зусім мала. Але атрымаць і іх было вельмі прыемна: адчуваецца ўвага да нас з боку літоўскіх чыноўнікаў.

**— А якое садзейнічанне аказвае этнічная Радзіма?**

— З боку беларускіх уладаў стаўленне да нас таксама змянілася. Бо адна справа, калі нехта заязджае ў Мінск і пачынае хадайнічаць ад імя аднае суполкі, а зусім іншая, калі за тваімі плячыма стаяць 13 арганізацый. Такім чынам, да нас сур'ёзней пачалі ставіцца і на Радзіме. Цяпер нам лягчэй атрымаць дапамогу ад тых жа Міністэрстваў культуры ці адукацыі, ад Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Прыклады такой дапамогі мы маем. У прыватнасці, ёсць дамоўленасць, што выпускнікоў нашае гімназіі будуць прымаць у беларускія ВНУ. Не так даўно мы атрымалі выдавецкі комплекс для беларускага культурнага цэнтра ў Шальчынінкаі, нам перадалі канцэртныя касцюмы для мастацкіх калектываў, рэгулярна атрымліваем з Радзімы кнігі і прэсу. Дарэчы, будзем хадайнічаць, каб у Літву дасылалі больш нумароў "Голасу Радзімы". Нашых настаўнікаў прымаюць на курсы ў Мінску, у летніх лагерах на тэрыторыі Беларусі адпачываюць нашы дзеці. Нам таксама аказалі дапамогу ў адкрыцці мемарыяльных дошак у гонар славутых землякоў, якія працавалі ў Літве: Янкі Купалы, Рыгора Шырмы, Тарашкевіча. Цяпер аказваецца садзейнічанне ў адкрыцці помніка Кастусю Каліноўскаму ў Шальчынінкаі. Ён ужо гатовы, таму мы чакаем зручнага моманту для гэтай падзеі. Свята беларускай песні, якое мы правялі з дапамогай беларускага пасольства, уразіла многіх у Літве. Гэтае ж можна сказаць пра гастролі Дзяржаўнага акадэмічнага хору імя Генадзя Цітовіча. Словам, наша праца стала больш арганізаванай і выніковай пасля таго, як суполкі аб'ядналіся.

**— Яшчэ адно "грашовае" пытанне. Ці ёсць у Літве буйныя прадпрымальнікі — выхадцы з Беларусі, якія выступаюць вашымі спонсарамі?**

— Іх няшмат. І хоць я непасрэдна не займаюся гэтымі пытаннямі, зараз на памяць прыходзяць імёны Міхася Руневіча, Валерыя Дзямешкі, Юрася Нюнькі. Але нам час ад часу аказваюць дапамогу і літоўскія бізнесмены. У прыватнасці, добра яны спрыяюць нашай школе.

**— Наколькі я ведаю, беларуская школа — гэта ваш вялікі гонар...**

— О! Гэта наш гонар і наш асаблівы клопат. Мы ўжо старыя, многія паступова адыходзяць ад спраў беларускасці, таму моладзь — наша будучыня. Зараз беларуская школа ў Вільнюсе — адзіная поўная сярэдняя школа з беларускай мовай наогул за межамі Бацькаўшчыны. Дзе-нідзе ёсць асобныя беларускія класы. Напрыклад, на тэрыторыі Літвы яны дзейнічаюць у Вісагінасе, збіраемся рабіць беларускі клас у Каўнасе. Мы будзем прыкладаць намаганні, каб надаць школе статус гімназіі. Збіраемся сёлета адкрываць курсы беларускай мовы для дзяцей і дарослых. Бо без мовы няма народа. Гэта відавочная ісціна.

Размаўляў **Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## ЗША

Дарагі спадар Лецка!

Учора атрымаў "Голас Радзімы" (1—8 красавіка 1999 года), у якім прачытаў Вашае інтэрв'ю з маладым пісьменнікам Андрэем Федарэнкам. Шчыра дзякую за прыгожыя словы, сказаныя пра мяне. Беларускую справу мы не пакідаем. Спадзяемся, што наша праца прынясе, няхай сабе малую, але ўсё ж такі карысць нашай далёкай, але блізкай сэрцу Бацькаўшчыне і яе народу. Паколькі Вы пісалі пра маю дзейнасць у справах этнічных групаў Амерыкі, пасылаю Вам два здымкі, зробленыя ў Белым Доме з прэзідэнтам Клінтанам і спадарыняй Клінтан у мінулым годзе. Здымкі былі зроблены перад пачаткам Кансультацыйнае нарады кіраўнікоў этнічных групаў Амерыкі з прэзідэнтам Клінтанам у Белым Доме.

У гэтыя дні ў Вашынгтоне адбываецца вялікая падзея — святкаванне 50-годдзя НАТО. Я маю асабістыя запросіны на розныя ўрачыстасці ў якасці ганаровага члена арганізацыйнага Камітэта. Залучаю для Вашае цікавасці копію запрашальнага ліста.

На святкаванні 25 сакавіка чытаў даклад у Саўт-Рыверы.

Юрка Навумчык збірае людзей на падарожжа ў Беларусь. Дык вітаю Вас, будзеце мець гасцей!

Прывітанне ад маёй жонкі.

**Ваш Расціслаў ЗАВІСТОВІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

Шаноўны спадар Расціслаў Завістовіч!

Для Вас, спадзяёмся, будзе прыемна пачуць навіну, што публікацыя ў "Голасе Радзімы" апавядання "Па́марак" Вашага "хрэсніка" Андрэя Федарэнкі, апавяданне якога "Бляха" ў Вашым з сынам перакладзе надрукаваў амерыканскі часопіс "Ікарус", паспрыяла здабыццю гэтым таленавітым празаікам яшчэ большай вядомасці: "Па́маракам" зацікавіліся ў Нямеччыне і паведамілі, што змесцяць яго ў Інтэрнэце і перакладуць на нямецкую мову.

## ЛАТВІЯ

## *ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ*

Бадай што, увесь літаратурна-творчы асяродак горада Даўгаўпілса сабраўся ў адзін з вечароў у Доме культуры "Вартна". Літаратары, музыканты, акцёры, навуковыя работнікі, бізнесмены, нават дыпламаты прыйшлі прывітаць паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, латышскага беларуса Станіслава Валодзьку ў сувязі з прэзентацыяй яго новай творчай працы — зборніка вершаў "Обращение к сердцу", які ўбачыў свет з дапамогай спонсараў і пры генеральнай падтрымцы Даўгаўпілскай друкарні "SAB" на чале з яго дырэктарам Юрыем Гарочавым. У гэтай кнізе — вершы С. Валодзькі розных гадоў. На рускую мову з беларускай вершы пераклалі даўгаўпілскі паэт Аляксей Салаўёў, пецярбургскія паэты Дзмітрый Мізгулін і Алег Казакоў, мінскія перакладчыкі Навум Цыпіс, Барыс Крывілевіч, перакладчык з Гродзеншчыны Томаш Лаўрыновіч. Ёсць тут і аўтарскія пераклады з беларускай мовы. Рэдактар зборніка і аўтар прадмовы да яго — прафесар Даўгаўпілскага педуніверсітэта доктар філалогіі Эдуард Менкш. Ён, гаворачы аб творчасці С. Валодзькі, прывёў цытату з рэцэнзіі прафесара Л. Цылевіча, які зараз жыве ў Ізраілі, на зборнік Валодзькі "У вачах Айчыны": "Паэзія С. Валодзькі традыцыйная ў лепшым сэнсе гэтага слова: ён, прыняўшы ў спадчыну, развівае традыцыі класікаў беларускай паэзіі..."

На прэзентацыі прафесар ДПУ, доктар педагогікі Людміла Цімошчанка паведаміла, што вершы С. Валодзькі ўключаны ў падручнік для другакласнікаў і ў Кнігу памяці, прысвечаную другой сусветнай вайне.

**Зянон БУРЫ.**

Даўгаўпілс.

## НА КОНКУРС "БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ"

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

* * *

**Грукнуў не громка**
**Рабінавай гронкай**
**Вецер, — пасланы**
**Радзімай старонкай.**
**Мовіў ціхутка:**
**"Задушны дзень хутка.**
**Ты ўжо збірайся,**
**Прыедзь пастарайся.**
**Родных прывець,**
**Што ўглядаюцца зорка**
**З таго ляснога**
**За вёскай пагорка,**
**Каб не было так**
**Няўтульна і золка,**
**Каб не было так**
**Рабінава горка".**

**Вецер прымчаўся —**
**Пасланнік радзімы —**
**Й сон мой пастукаўся**
**Гронкай рабіны.**

* * *

**На маю радзіму, Оля, едзем —**
**Вочы ўсе прагледзела там недзе**
**Неба, пад якім чакае хата,**
**Што адна, глядзіць, як вінавата.**

**На маю радзіму едзем, Оля.**
**Для сыночкаў колькі там**
**раздолля!**
**З імі й нас суседзі там пястуюць—**
**Свежым малачком усё**
**частуюць.**

**На маю радзіму, Оля, едзем.**
**Там заззяе, убачыўшы нас**
**ледзьве,**
**Неба, пад якім, сустрэўшы, хата**
**Паглядаць зноў будзе зухавата.**

**На маю радзіму едзем, Оля, —**
**Бог нас любіць, не разлюбіць**
**доля, —**
**Набяруся духу на радзіме**
**І скажу: "Дачушку нарадзі мне!"**

* * *

**Як доўга я ўдачы не ўбачу,**
**Прыеду ў Падольцы,**
**На дол**
**За вёскай упаўшы,**
**заплачу,**
**Уткнуўшыся полю ў падол.**

**Дзе калісь дзяды працавалі,**
**Бацькі шчыравалі ў адно:**
**Шмат сілы яму аддавалі,**
**Ды болей вяртала яно.**

**Ўспамін жа то ржышчам уколе,**
**То зёлкай прылашчыць:**
**Увысь**
**Глядзеў я маленькі —**
**ў прыполе**
**Вось гэтага поля**
**калісь.**

**Такое ў яго біяполе,**
**Што поле мне ўпасці не дасць:**
**Адцягне ўсе крыўды і болі,**

**Мне сілы і моцы надасць.**
**Я болей ад шчасця заплачу,**
**Як змыю слязамі тугу:**
**Вялікай удачай убачу,**
**Што бачыць Айчыну магу...**

### ЗЕМЛЯКАМ

*"...паклон аддаці дню",*
**К. СВАЯК.**

**Зноў зямны паклон аддаўшы**
**дню,**
**Шчыра вас вітаю, як радню:**
**Добры дзень на век вам, землякі,**
**Многа вас — хто мне — як сваякі,**
**З кім мяне яднае памяць-ніць,**
**Мова — кроў духоўная —**
**радніць!**

**Тут і праз далёкі далягляд**
**Бачу добры Мальдзіса пагляд...**

**Ўдзячны мой паклон святому дню —**
**Сонечнаму Вечнаму агню —**
**Мой паклон праз годы, праз вякі**
**Вам, хто і ў зямельцы — землякі!**
**Тут свой дар — Айчыне на алтар**
**Наш зямляк Сваяк —**
**паэт-святар...**
**Тут хвалу прырода вам пяе. —**
**Дзень паклон свой нізкі аддае!..**



Карыстаючыся нагодай, і Вас запрашаем да супрацоўніцтва з нашай газетай, бо ведаем Расціслава Завістовіча не толькі як выдатнага грамадскага дзеяча, але і як таленавітага літаратара, публіцыста. Былі б рады атрымаць ад Вас матэрыял пра жыццё беларусаў Амерыкі, пра дзейнасць такой салiднай грамадскай арганізацыі, як Кангрэсовы камітэт беларусаў Амерыкі, якую Вы ўзначальваеце шмат гадоў. А можа Вам успомніцца перажытае, родны бацькоўскі кут, напоўнены трагізмам дні прымусовай працы ў Нямеччыне, куды Вы былі вывезены акупантамі падчас вайны...

Магчыма, і Вы гэтым летам разам з саўт-рыверцамі прыедзеце ў вандроўку на Беларусь, якая, сцвярджае Лецка, будзе не менш цікавай, чым папярэдняя, у якой Вы ўдзельнічалі. Будзем рады вітаць Вас у рэдакцыі.

Што датычыць святкавання юбілею НАТО, то, вядома, жадаем Вам ад гэтай урачыстасці прыемных уражанняў, хоць у нас саміх апошнім часам стаўленне да гэтай арганізацыі памянялася ў сувязі з вайной у Югаславіі. Мы не адмаўляем віны прэзідэнта Мілошавіча ў той страшнай трагедыі, што ўжо некалькі гадоў не заціхае на землях паўднёвых славян і каштавала жыццяў дзесяткаў і сотняў тысяч ахвяр этнацыду. Але, пагадзіцеся: простыя людзі не павінны слязьмі і крывёю аплачваць згубныя і бязглуздыя словы і дзеянні сваіх кіраўнікоў. Бо як тады паставіцца да сказаных каля ста гадоў назад слоў Вашага любімага пісьменніка, чые продкі паходзяць з Беларусі, Фёдара Дастаеўскага, які сцвярджаў, што ніякі прагрэс, ніякія высакародныя ідэі нельга апраўдаць, калі яны будуць аплачаны слязінай дзіцяці. А колькі тых слязінаў ужо пралілося і яшчэ можа праліцца на шматпакутнай славянскай зямлі!

А таму, калі давядзецца ад імя беларусаў трымаць слова, паспрабуйце, калі зможаце, данесці перажыванні простых людзей, у душах якіх усё яшчэ жыве памяць і боль і пра даўно мінулую другую сусветную вайну, і пра бліжэйшую трагедыю ў Афганістане, перажыванні за лёс ні ў чым невінаватых як сербаў, так і касавараў. А раптам Ваша ад душы прамоўленае слова паспрые павароту палітыкаў ад ваенных дзеянняў да перамоў па мірнаму ўрэгуляванню гэтага крывавага канфлікту. Вашымі словамі кажучы — "Чем черт не шутит!"

Жадаем Вам усяго самага найлепшага!



Біл КЛІНТАН і Расціслаў ЗАВІСТОВІЧ (справа).

ПОЛЬШЧА

# «БУДЗЕМ НАЛАДЖВАЦЬ ДВУХБАКОВЫЯ СУВЯЗІ»

## БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ ВА УНІВЕРСІТЭЦЕ ІМЯ МАРЫІ КЮРЫ-СКЛАДОЎСКАЙ У ЛЮБЛІНЕ

Калі пасля распаду СССР паўсталі незалежныя дзяржавы Украіна і Беларусь, у Польшчы пачалі ствараць новыя накірункі філалогіі. У 1993 годзе рэктар універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай Я. Гансёр і прарэктар Е. Бартмінскі выступілі з ініцыятывай стварыць ва універсітэце аддзяленне беларускай філалогіі (беларускае аддзяленне па славянскай філалогіі ў Люблінскім каталіцкім універсітэце існавала з 1987 года). На Беларусі ў той час адбываўся працэс нацыянальнага адраджэння, папулярызацыі беларускай мовы і культуры. Кіраўніцтва нашага універсітэта зыходзіла з таго прынцыпу, што мову і культуру суседняй дзяржавы трэба ведаць і выпускнікі новага аддзялення павінны стаць тымі, хто неўзабаве будзе наладжваць польска-беларускія палітычныя і культурныя сувязі.

На пачатку вясны 1993 года рэктар Я. Гансёр запрасіў на размову выкладчыка Інстытута славянскай філалогіі доктара М. Саевіча і даручыў яму арганізацыю новага накірунку — беларускай філалогіі (годам раней ва універсітэце была адкрыта ўкраінская філалогія). Вырашана было не чакаць, пакуль з'явяцца навуковыя кадры, укамплектуецца бібліятэка, а неадкладна пачынаць працу (беларуская філалогія ў Варшаўскім універсітэце існуе больш за сорак гадоў, а працуе там толькі адзін прафесар — А. Баршчэўскі). У Мінск адправілася дэлегацыя ў складзе прафесараў Е. Бартмінскага, Я. Арлоўскага, Я. Левандоўскага і доктара М. Саевіча, каб абмеркаваць пытанні супрацоўніцтва паміж Універсітэтам імя М. Кюры-Складоўскай і Беларускім дзяржаўным універсітэтам. Была падпісана дамова аб навуковым і педагагічным супрацоўніцтве, аб абмене выкладчыкамі і студэнтамі (якраз у гэты час у Мінску арганізоўвалася аддзяленне польскай філалогіі).

1 кастрычніка 1993 года пачаліся заняткі на першым курсе беларускай філалогіі Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай. Праводзілі іх выкладчыкі Інстытута славянскай філалогіі М. Кордас, М. Саевіч, Н. Саевіч, Я. Сянкевіч, прафесар Т. Рот-Жаброўскі. З Мінска быў запрошаны дацэнт С. Кавалёў, а з Варшавы — прафесар А. Баршчэўскі. Пазней да калектыву выкладчыкаў далучыліся выпускнікі беларускай філалогіі Люблінскага каталіцкага універсітэта Б. Гура і М. Вяжхоўская. З 1998 года як самастойная адзінка існуе кафедра беларускай мовы і літаратуры, якой кіруе доктар М. Саевіч.

Найбольш праблем было з фарміраваннем бібліятэкі. На жаль, беларускія ўстановы і арганізацыі не аказалі ніякай дапамогі. Патрэбныя для вучобы падручнікі і слоўнікі выкладчыкі і студэнты вымушаны былі шукаць у букіністычных кнігарнях альбо прывозіць з Мінска (у сувязі з гэтым звяртаемся з просьбай да ўсіх, хто можа нам дапамагчы кнігамі ды часопісамі).

Штогод у верасні група люблінскіх студэнтаў-беларусістаў выязджае на практыку ў Мінск, а мінскія студэнты-паланісты наведваюць у гэты час Люблін. Да таго ж адна асоба з польскага боку адбывае гадавы курс навучання на Беларусі, і, адпаведна, адна асоба з беларускага боку — у Польшчы. Люблінскія студэнты былі таксама слухачамі Летняй школы беларусістыкі ў Гродне, бралі ўдзел у дыялекталагічнай экспедыцыі на Брэстчыне, IV і V курсы праходзяць педагагічную практыку ў беларускіх ліцэях (Гайнаўка, Бельск).

Хаця гісторыя беларусістыкі ва Універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай налічвае ўсяго шэсць гадоў, але за гэты час адбылося ўжо шмат навуковых і культурных мерапрыемстваў, арганізаваных выкладчыкамі і студэнтамі. Перад навучэнцамі выступалі госці з Беларусі: прафесары А. Грыцкевіч і І. Шаблоўская, дактары навук П. Міхайлаў, М. Чарняўскі, М. Хаўстовіч, пісьменнікі Л. Дранько-Майсюк, Ю. Залоска, тэатральны крытык Ж. Лашкевіч. Адбылася вечарына, прысвечаная жыццю і творчасці Ларысы Геніюш, на падставе кнігі "Споведзь" і шматлікіх вершаў паэткі, інсцэніраваная вечарына памяці Івана Луцкевіча з выкарыстаннем успамінаў Юльяны Вітан-Дубейкоўскай. Асабліва ўдалася цудоўная вечарына, наладжаная беларуска-нямецкім курсам пад назвай "Маленькі прынц сярод нас". Гэта было тэатралізаванае прадстаўленне на трох мовах — польскай, нямецкай і беларускай — паводле матываў вядомай казкі А. дэ Сент-Экзюперы. Спектакль сабраў вялікую колькасць гледачоў не толькі з беларускага аддзялення. Варта згадаць таксама літаратурную вечарыну з удзелам вядомай паэткі з Бельска Надзеі Артымовіч і сустрэчу з маладымі паэтамі-бардамі з Мінска — Сержуком Мінскевічам і Андрэем Хадановічам (апошні акрамя ўласных твораў чытаў пераклады на беларускую мову вершаў Ч. Мілаша і К. Галчынскага).

У 1998 годзе адбыўся першы выпуск аддзялення беларускай філалогіі ва Універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай. Мы вырашылі сустрэцца з выпускнікамі і даведацца, як успамінаюць яны сваю вучобу ва універсітэце, як ацэньваюць яе. Вось што расказала нам Івона Банасік: "Я з прыемнасцю згадваю пяць гадоў навучання на аддзяленні беларускай філалогіі. Наш курс быў першым, эксперыментальным у гісторыі універсітэта. Бракавала падручнікаў, навуковай і мастацкай літаратуры, але мы скончылі вучобу і сталі магістрамі. Лічу, што мы атрымалі добрыя веды. Падчас практыкі ў Гайнаўскім ліцэі настаўнікі адзначалі высокі ўзровень нашай падрыхтоўкі, а вучні ліцэя наракалі на нашую патрабавальнасць. Атрыманыя на аддзяленні беларускай філалогіі веды дапамагаюць мне ў далейшай вучобе і напісанні магістарскай працы па паліталогіі. Цешыць таксама, што беларусістыка існуе далей і на першым курсе вучыцца шмат студэнтаў". Цёпла ўспаміналі гады студэнцтва і іншыя выпускнікі, асабліва практыку ў Мінску, дзе яны мелі магчымасць пазнаёміцца з розными цікавымі людзьмі, лепш пазнаць гісторыю і культуру Беларусі.

Паразмаўлялі мы і з першакурснікамі, якія толькі распачалі сваю вучобу на нашым аддзяленні. Іх думка была такой: "Мы ганарымся тым, што ў Польшчы будзем адными з тых нямногіх, хто добра ведае беларускую мову, літаратуру, культуру. Дзякуючы таму, што мы тут вучымся, мы лепш разумеем і гісторыю нашай уласнай краіны, а таксама гісторыю усіх славянскіх народаў".

Як відаць з нашага кароткага агляду гісторыі люблінскай беларусістыкі, а таксама з размоў са студэнтамі, выпускнікамі і выкладчыкамі, варта вывучаць беларускую філалогію ў Люблінскім універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай. На жаль, большасць абітурыентаў не ведае пра існаванне нашага накірунку, але мы думаем, што неўзабаве гэта сітуацыя зменіцца ў лепшы бок і беларуская філалогія стане папулярнай не толькі ў Любліне, але і ва ўсёй Польшчы.

**Агата ТУБЭК, Адам СІВЭК, студэнты IV курса Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай.**



*Студэнты-беларусісты.*

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

ІТАЛІЯ



Дарагія мае, вялікае дзякуй за ўвагу да мяне.

Шлю вам кветачку, яна расла ў гарах, дзе былі партызаны. Я яе захоўвала, а цяпер дару вам, каб не забываліся пра 9 Мая — Дзень Перамогі. Фашыстам не дазволілі таптаць нашу родную Беларусь. А ўжо амаль месяц, як ідзе жудасная вайна з Югаславіяй. Няўжо нельга ўсім разам штонебудзь зрабіць, каб не губілі людзей? Кожную ноч скідваюць бомбы на Бялград. Прабачце, але я так за ўсіх перажываю, таму што сама такое некалі на сабе адчула. Больш за ўсё шкада малых дзяцей, бо яны ж наогул ні ў чым невінаватыя.

Усім вялікае прывітанне.

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

**P. S.** Сёлета ў Італіі вясна дрэнная. А як у маёй Беларусі?

ПОЛЬШЧА

## З «ВІЛЕНСКАГА КУФЭРКА»

У залах кетшынскага Дома культуры дзейнічае выстава пад назвай "З віленскага куфэрка". Галоўнай арганізатаркай выставы з'яўляецца спадарыня Браніслава Рутkоўская, сябра Таварыства ўлюбёнцаў (аматараў) Вільні і Віленшчыны. Няшмат людзей працуе цяпер у гэтым таварыстве. Жыццё піша сваю гісторыю, частка сябровў памерла, частка не выказвае занадта вялікай актыўнасці. Астатнія сустракаюцца паміж сабой, жывуць успамінамі і спрабуюць перадаць свае веды і вопыт маладому пакаленню. Спадарыня Браніслава кажа пра сябе, што мае натуру хамячка. Збірае лісты, кніжкі, рэчы і старыя здымкі з колішняй Віленшчыны. Выстава нагадвае жытло, быццам жыўцом перанесенае з ваколіц Вільні. Мэбля, фіранка, здымак маюць пачэснае месца ў памяці спадарыні Браніславы Рутkоўскай. Адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы з удзелам павятовых і гарадскіх уладаў. Прыходзілі школьнікі і нават дзеці з садзіка. Большасць моладзі разумее сэнс выставы і яе значэнне. "Моладзь не кепская, кепская рэчаіснасць, якую стварылі дарослыя", — кажа спадарыня Браніслава. У памятнай кнізе ёсць запіс Агаты Думары, унучкі брата спадарыні Рутkоўскай, навучэнкі:

"Дзякуем цёцям Броні і Марысі за тое, што наладзілі такую выдатную выставу. За тое, што з кожнага інструмента, кожнага абруса, кожнай рэчы, якія тут паказаны, выглядае гісторыя нашай сям'і, што выстава нарадзілася з любові і пашаны да людзей, якія калісь карысталіся тым, што сёння аглядаем на выдатнай, пачуццёвай выставе. Дзякуем за хвіліны роздуму, успамінаў і ўзрушэння".

Хто шукае хвілі развагі, роздуму над плынным часам, няхай наведае залу КДК у Кетшыне. Папраўдзе варта!

**М.Б.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**КУХАРЧУК Эліна Леанідаўна**, 1973 года нараджэння, якая жыве ў Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці, шукае родную сястру па маці **ВАЙНЕР Фаіну Замуэлеўну**, 1965 года нараджэння, якая паехала ў Сан-Францыска (ЗША) з Рыгі ў 1982 годзе з бацькам **ВАЙНЕРАМ Замуэлем Мееравічам** і бабуляй **ВАЙНЕР Кейлай Зэлікаўнай**.

Звяртацца па адрасу:
**220034, г. Мінск, вул. Захарава, 23.**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

**Тэл/факс: 284-75-15.**
**Тэлефон: 236-34-54.**

ГОСЦЬ РЭДАКЦЫІ

# АЛЕСЬ ПЯТРУННІКАЎ:

# «ВЫКЛАДАЮ ГІСТОРЫЮ РАСІІ, АЛЕ...»

**Гаворка ідзе, зразумела, пра беларуса з замежжа. На гэты раз быў ім Алесь Пятруннікаў з Манчагорска Мурманскай вобласці. Чалавек, скажам так, з блізкага замежжа. Але, калі разважыць і ўдумацца, дык ці за блізкім светам той край: адтуль сюды, на Беларусь, цягніком трэба ехаць некалькі сутак. У параўнанні з такой "блізкай" далеччу — Францыя, Нямеччына, ды і ўся Еўропа ў Беларусі пад бокам.**

**Алесь Пятровіч зазірнуў у рэдакцыю ўсяго на некалькі хвілін, бо мусіў яшчэ паспець на цягнік у Жлобін, дзе жывуць ягоныя родныя.**

**Паколькі ад Пятруннікава заўжды выпраменьваецца імпэт і весялосць, а ў вачах бліскаюць-пераліваюцца задзірыстыя агеньчыкі — здаецца, круглявы, як сонца, твар вось-вось пырсне іскрынкамі смеху, я пастараўся патрапіць у настрой і таксама пачаць з гумаркам.**

**— На днях адна ве-ельмі саноўная і да глыбіні душы ўстурбаваная ўсімі беларускімі справамі ў свеце спадарыня выказала "Голасу Радзімы" папрок, што нібыта апошнім часам газета рэзка знізіла цікаўнасць да таго, чым і як жыве наша дыяспара. Ды ты не смейся! Закід сапраўды вельмі істотны, бо ў гэтым самым асвятленні бачым свой найпершы абавязак!**

— Ды я ж не з гэтага ўсміхнуўся. Проста ў галаве ўсплылі радкі з паэмы У. Маякоўскага "Владимир Ильич Ленин": "Землю всю охватывая разом, видел то, что временем закрыто..." Трэба ведаць: правадыры бачаць тое, што закрыта ці то смугою часу, ці штодзённай мітуснёй і клопатам. Але калі зусім сур'ёзна, без іроніі, дык, скажу шчыра: заўважыў у газеце ажыўленне і нават хацеў даслаць ліст і такім чынам паўдзельнічаць у "перазовах" беларусаў свету, што досыць дружна падаюць галасы з розных канцоў зямное кулі.

**— То мо дзеля чытачоў раскажаш крыху пра сябе?**

— Працую прафесарам горнага інстытута імя В. Г. Пляхавана ў Манчагорску. Выкладаю гісторыю Расіі і філасофію. У сваіх лекцыях спрабую абудзіць і выхаваць у расійскіх студэнтаў пачуццё павагі да Беларусі і яе народа. Гаворачы пра гісторыю Расіі, не забываю сказаць, як на кожным канкрэтным прамежку складваліся ае дачыненні з Беларуссю. Няпростыя дачыненні, бо ж за тысячу гадоў было ўсяго. Часта цытую вершы беларускіх паэтаў. Вядома ж, у арыгінале. Слухаюць з цікавасцю. А што не зразумеюць — перапытваюць, і я ім тлумачу ў сваім вольным імправізаваным перакладзе. З'яўляюся прыхільнікам незалежнасці Беларусі і сваіх поглядаў ні ад кога не хаваю.

**— І як жа ставяцца ў Расіі да такога "самасційніка"?**

— Па-рознаму.

**— А да беларусаў увогуле і да Беларусі?**

— Нас там традыцыйна любяць, але, я б сказаў, трошкі дзіўнаю любоўю. Таму імкнуся давесці і на лекцыях, і ў прыватных гаворках, што мы не нейкія іх маладзейшыя і нібыта недаразвітыя браты, а самастойны еўрапейскі народ. Бо невядома ж, хто з нас старэйшы, а хто маладзейшы і, галоўнае, хто каму больш даў у плане духоўнасці, культуры, далучэння да скарбаў еўрапейскай цывілізацыі...

**— Якога-небудзь імкнення адцясніць, не пусціць нашых землякоў на адміністрацыйныя і гаспадарчыя пасады не заўважаецца?**

— Такія факты мне невядомыя. Наадварот, "пасадных" беларусаў значна больш у працэнтных адносінах, чым прадстаўнікоў іншых народаў, у тым ліку і рускіх. Мы ж людзі працавітыя, мазгавітыя і ўважлівыя да патрэб звычайнага чалавека. Карацей, добрыя службісты і людзі. Але сказаць, колькі беларусаў-дэпутатаў у Дзяржаўнай расійскай думе — ні я, ніхто табе іншы, бадай, і не скажа, бо іх, як беларусаў, там зусім не бачна. Але ж Дума — орган шматнацыянальнай дзяржавы і павінна адстойваць інтарэсы кожнага народа. Нас жа ў Расіі амаль паўтара мільёна...

**— То скажы, што маеш на ўвазе пад абаронай нацыянальных правоў?**

— Шмат што. Напрыклад, духоўнае ўзаемаўзбагачэнне двух братніх народаў. Вось ты скажы мне, колькі часу сродкі масавай інфармацыі Беларусі адводзяць на прапаганду рускай культуры, мовы, папулярнай на сёння эстраднай песні, увогуле ўсяго рускага? Шмат, кажаш. А расійскія? Мне тут і сказаць табе няма чаго...

**— А што прапанаваў бы зрабіць, каб перайначыць такую сітуацыю?**

— Выкажу тое, пра што даўно гавораць усе нашы беларусы. Нам вельмі хацелася б, каб на цэнтральных расійскіх тэле- і радыёканалах загучалі беларускія песні, музыка.

**— Такія пытанні, мяркую, могуць быць вырашаны толькі на высокім дзяржаўным узроўні. А ці не спрабавалі вы да іх прыцягнуць увагу грамадскасці? Прынамсі — ты асабіста?**

— Вядома, спрабаваў. Калі канкрэтна — неаднойчы ў абласной мурманскай газеце "Полярная звезда". Нават магу і нумар назваць, і назву аднаго з маіх артыкулаў "История дала нам шанс", апублікаванага летась за 6 чэрвеня. Тыя ж праблемы я падымаў і ў добра вядомым на Беларусі часопісе "Огонек".

**— А ці шмат беларусаў у Манчагорску?**

— Багата.

**— І вы арганізаваны ў суполку?**

— Афіцыйна не зарэгістраваны, хоць збіраемся гуртам, гаворым пра набалелае, спяваем свае беларускія песні.

**— Што пажадаеш "Голасу Радзімы"?**

— Быць цікавай газетай, даваць аб'ектыўнае асвятленне ўсяго, што было ў гісторыі і дзеецца сёння на Беларусі. Бо іншай крыніцы інфармацыі мы не маем.

**— Дзякуй, будзем старацца. Але ж гэта агульнае пажаданне, а ад цябе хацелася б пачуць і штосьці больш канкрэтнае.**

— Увядзіце пастаянную рубрыку "Асобы на Беларусі", пакажыце праз газету сапраўды годных людзей, на якіх сёння трымаецца наша Бацькаўшчына. А трымаецца яна, я перакананы, на Асобах, вакол якіх гуртуюцца прыхільнікі беларушчыны. Асоба — гэта чалавек адухоўлены, культурны, з пачуццём уласнай, у тым ліку і нацыянальнай, годнасці...

**— Пра каго б ты сам мог, хацеў бы напісаць ці хоць бы параіў нам?**

— Ну, напрыклад, пра Сцяпана Сокала. Гэта доктар юрыдычных навук, прафесар, даследчык філасофскай, палітычнай і прававой думкі Беларусі, гісторыі беларускага права. Ён першы звярнуў увагу на багатую ідэйную спадчыну, творчы патэнцыял такіх гуманістаў, мысляроў, як М. Літвін, А. Волан, А. Алізароўскі. Даў нетрадыцыйную ацэнку палітычных партрэтаў гістарычных асоб Беларусі XVI—XVII стагоддзяў Мікалая Радзівіла Чорнага, Астафія Валовіча, Льва Сапегі. Паказаў, што адназначныя класавыя падыходы перашкаджаюць зразумець рэальны ўклад гэтых дзяржаўных дзеячаў і палітыкаў, што іх нельга разглядаць толькі як буйных феадалаў. Бо гэта былі вядомыя мецэнаты, асветнікі, абаронцы дзяржаўнай годнасці і суверэнітэту...

**— Стой-стой! У цябе, бачу, нарыхтавана ў галаве цэлая манаграфія пра гэтую Асобу.**

— Дык спадар Сокал варты ўвагі. Яшчэ ў 1991 годзе ён выступіў ініцыятарам стварэння недзяржаўнай вышэйшай юрыдычнай навучальнай установы — Беларускага інстытута правазнаўства, рэктарам якога з'яўляецца і па сёння. Апрача гэтага, у чэрвені 1990 года выбраны старшынёй Саюза юрыстаў Беларусі. Ён паважае і ведае выдатна гісторыю, мову, культуру Беларусі.

**— Што ж, дзякуй Богу, што не звяліся такія людзі. Трэба, тут я з табою цалкам згодны, каб пра іх ведалі не толькі на Бацькаўшчыне... Жадаю табе добра адпачнуць, акрыяць душою сярод родных і блізкіх, набрацца новых сіл, новага зараду для плённай дзейнасці на далёкай і суровай Поўначы.**

**Распытваў Я. ВАРАНЕЦ.**

АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

# ЯК МОЖНА ЖЫЦЬ БЕЗ БЕЛАРУСІ?



*Тэлеперадачу "Роднае слова" вядуць дыктары М. ТАЧЫЦКАЯ і С. ЯСКЕВІЧ. Тэма — у грыбы: "Па грыбы, але не за грыбамі!" 1994 год.*

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

З БЕЛАРУСІ апошнім часам пачалі знікаць людзі. Не раўнуючы, як з той Чачні. От жыве-жыве чалавек, працуе-працуе — і раптам, як у ваду кануў. Нідзе і нічога пра яго не чуваць, як быццам памёр. Але ж і некралогаў не відаць. Пачнеш пра іх распытваць у знаёмых, а яны кажуць: "Шукай-свішчы іх у Амерыцы!"

...Не гэтак яшчэ даўно на Беларускім тэлебачанні працавала вядомая ўсім Марына Тачыцкая. Прывабная, стройная, вачэй не адвесці. Любілі яе гледачы. Яна была сваім чалавекам у кожнай беларускай хаце, у кожнай кватэры. І ўсё ў яе ладзілася. Працуючы дыктарам, нават кандыдацкую абараніла. Але вось некаму з тэлевізійнага кіраўніцтва аднойчы нешта не спадабалася. Некаму падалося, што Марына папаўнела. Пачалі чапіцца, ламаць чалавека. І як вынік — драма. Ледзь дамаглася, каб хоць на радыё дазволілі працаваць. Працавала-працавала — і раптам і з радыйнага эфіру знік яе голас. Пачаў цікавіцца, дзе Тачыцкая? "Ды ўжо ў Амерыцы", — сказалі. Для мяне гэта было як нажом у сэрца! І не толькі за адну Марыну! Колькі іх ужо там: кампазітар Зміцер Яўтуховіч, паэт Сяргей Сокалаў-Воюш, метадыстка Міністэрства асветы Святлана Рудзянкова, народная спявачка Валянціна Пархоменка, песняр Лявон Барткевіч, дыпламат Уладзімір Палупанаў ... І ўсе яны мае знаёмыя, з імі я працаваў, натхняўся. Разам з імі бедаваў і турбаваўся за лёс Беларусі. А цяпер яны за акіянам...

Не ведаю, як пачуваюць сябе на чужыне мае землякі, мае калегі. Але пра сябе скажу: "Я б не змог жыць без Беларусі".

Прыгадваецца, у 1956—1958 гадах лёс закінуў мяне ў далёкі Мурманск. Як жа я там пачуваў сябе сіратліва! Я не ведаў краю. Мой свет абмяжоўваўся некалькімі вуліцамі Мурманска, а далей быў Кольскі заліў і сопкі. І ўсё. Не тое, што дома! Толькі падумаў — і ўся Беларусь ад Гомеля да Брэста, ад Пінска да Магілёва і Віцебска табе празрыстая. Дома куды ні пойдзеш — не зблудзіш, бо і гэта твой дом. А там, у Мурманску, праз кіламетр я ўжо не ведаў, што там далей, за тымі сопкамі...

І вось, згадваючы пра гэта, я часта думаю: "А як жа пачуваюць сябе на чужыне мае сябры, мае знаёмыя?"

Скрозь чужыя людзі, чужая мова, чужыя норавы і звычаі. Але не толькі гэта мяне турбуе. Я думаю і пра тое, колькі б, жывучы на Беларусі, скажам, зрабіў той жа Зміцер Аўтуховіч? У яго таксама, як і ў Марыны Тачыцкай, усё дома ладзілася. Яго любілі дзеці, моладзь. Ён мог бы шмат каго павесці за сабою. Малады, імпазантны, натхнёны, парывісты — такім ён мне помніцца з пачатку дзевяностых гадоў. Ягоная песня "Даставай, Язэп, гармонік..." сваёй звонкай мелодыяй варушыць сэрцы беларусаў, абуджае ў іх прысыпаныя беларускія гены!

А Сяргей Сокалаў-Воюш! Здавалася, не было на Беларусі больш патрыятычнага чалавека, як ён. Сваімі песнямі ён таксама ўзварушваў людзей, яднаў іх, гуртаваў разрозненыя душы ў адно цэлае. І вось табе маеш! Сяргей таксама дзесь за акіянам. Чым ён там цяпер жывіць душу? Хіба толькі ўспамінамі. Кажуць, што ён на радыёстанцыі "Свабода" працуе. Але што тая радыёстанцыя! Хіба яна можа замяніць жывую Радзіму, жывыя імпульсы, гэтак патрэбныя для творчасці, для душы! Вядома, на Беларусі цяпер жыццё не мёд. Але калі яно было мёдам! Шмат у нас і іншых непаразуменняў. Але ж хто іх будзе вырашаць? На чый лёс усё гэта кінута?

На вялікі жаль, беларуская нацыя да гэтай пары не можа пахваліцца сваёй маналітнасцю. Але ж тым, хто моцна духоўна павязаны з Беларуссю, мусіць не ўсё роўна, дзе жыць, на карысць якога народа працаваць. Ці ж не так, Сяргей, Алесь, Марына і шмат хто іншы?! Не ведаю, як вы, ці ўспамінаеце там пра мяне. А я пра вас думаю амаль кожны дзень. Вас так нестае Беларусі!

Я згадаў толькі некалькі імёнаў з сваіх знаёмых, якіх прывабілі чужыя краіны... А колькі яшчэ незгаданых! Дзесь у Амерыцы жыве і колішні тэлевізійны кінааператар Уладзімір Юрэвіч, і журналісты Яўген Мазо і Ілля Злотнік з сем'ямі, мае суседзі Крывіцкія. Ну хай сабе яны і жывуць там. Але ніяк не магу пагадзіцца з тым, каб жылі не на Радзіме людзі, якія маглі б духоўна ўзбагаціць свой народ, праславіць сваю Радзіму.

Праўду казала Ларыса Геніюш: "Як жыць, дык жыць для Беларусі!" Гэта ёю выпакутавана, як і выпакутавана мною. Не хацелася быць нікому ні суддзёй, ні пракурорам. А ўсё ж карціць даведацца, як жывецца нашай новай эміграцыі без Беларусі. Ці не ные сэрца? На Беларусі, як і даўней, навала працы. Кожны свядомы беларус працуе за дзесяць апатычных, а, мабыць, і за тых, хто эмігрыраваў. Хіба ж гэта не так?

Таму я і не разумею, як можна жыць без Беларусі, асабліва тым, хто душой і сэрцам прысягаў ёй, хто вучыў і клікаў прысягаць на вернасць і іншых. І ім былі паверылі. А яны ўзялі і паз'язджалі ў розныя Амерыкі! Гэта толькі на першы погляд здаецца, што адзінка нічога не значыць. На самай справе з адзінак складаюцца вялікія лічбы.

...Гэтымі днямі прачытаў у газеце гутарку з вядомым спеваком Віктарам Шалкевічам. Не вельмі ўтульна яму, паводле ягоных слоў, жывецца на Беларусі: у грамадстве людзі з застарэлымі поглядамі. З гэтай нагоды запыталіся ў яго, што тады яго стрымлівае зрабіць тое самае, што зрабілі шмат хто з ягоных пабрацімаў. На што Віктар адказаў: "Я люблю гэтую краіну. Я тут нарадзіўся і не магу пакінуць яе. Я гляджу на магілкі сваіх продкаў, на магілы людзей, якія за гэтую краіну змагаліся..."

Вось гэта мне зразумела...

Паміж іншым, журналісты назвалі Віктара Шалкевіча за такую ягоную пазіцыю "сапраўдным ліцвінам". Думаю, справядліва!



*Метадыст Міністэрства асветы Святлана РУДЗЯНКОВА і Уладзімір СОДАЛЬ — кіраўнік студыі "Ліцэй". 1973 г.*



ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА



# ПРА МАСТАЧКУ МАШУ, ЯКОЙ ТРЫ ГАДЫ

Вы бачыце на здымку сям'ю Наталлі і Міхаіла Заграднічых з іх дачкой Машай. У Машы ёсць яшчэ брацік. У гэтай сям'і — два мастакі. Адзін прафесійны — тата, а другі пачынаючы — дачка. Машы 3 гады. Яна малюе з аднаго года і двух месяцаў і лічыць свой занятак такім жа натуральным, як і іншыя дзіцячыя забавы.

Яе выстава "Чысты свет" цяпер праходзіць у мінскім дзіцячым кінатэатры "Піянер". Дарэчы, гэта ўжо не першая выстава дзяўчынкі. Дапамагае ў выстаўчанай дзейнасці Машы яе бацька. Яна так і кажа: "Я малюю, а тата робіць мне рамкі". (Кожная карціна аздоблена рамай).

Што яна малюе? "Тата з вусамі і дзеці", "Гэта такія кветачкі на ножках", "Гэта дзень нараджэння", "Гэта тата, мама і Маша" — такія назвы яе карцін.

У кінатэатры "Піянер" дзеці задавалі Машы шмат пытанняў. Яны цікавіліся яе карцінамі і жыццём. Мяне ўразіла як непасрэднасць Машы, так і паводзіны дзяцей. Яны, аказваецца, зусім не саромеюцца сваіх настаўніц у адрозненне ад школьнікаў мінулых пакаленняў. Мне спадабалася іх цікавасць да дзяўчынкі — да таго, што яна глядзіць па тэлевізары (у адказ Маша запрасіла ўсіх да сябе ў госці і паабяцала паказаць), што малюе, што робіць, акрамя малявання ("Дапамагаю маме чысціць капусту"). Адну дзяўчынку зацікавіла прычоска Машы: "Ці доўга ты расціш свае валасы?" — запыталася яна.

Быў падчас размовы "драматычны" момант. Тата Машы расказваў, што Маша малюе на шпалерах, на адваротным малюнку баку. Ён разразае трубку шпалер на шмат частак, і дзяўчынка атрымлівае аркуш. Дзеці не зусім зразумелі, і пачалася спрэчка, ці будуць іх бацькі радавацца мастацкаму таленту дзяцей, адлюстраванаму на шпалерах. Так што Машынаму бацьку давялося прасіць дзяцей, каб на шпалерах, што на сценах у хаце, не малявалі.

Дзіцячыя малюнкі, як і дзіцячыя думкі, — усё ў іх магчымае, усё праўда. Маша любіць сваю сям'ю, яна малюе ўсіх разам, побач — і маму, і тату, і брацікa. Яна



верыць у чысціню свету і нас прымушае зайздросціць гэтай веры. Маша не сцвярджае, што абавязкова будзе мастачкай. Наадварот, яна збіраецца "быць мамай".

Кім бы ні стала гэтая дзяўчынка, ёй пашанцавала ў самым важным: яе сям'я вельмі чула ставіцца да таго, што любіць Маша. Яна не ходзіць у дзіцячы садзік, жыве дома. У мастацкую школу яе ў бліжэйшы час таксама весці не збіраюцца. Бацька не прымушае дзіця да заняткаў мастацтвам. Ён хоча, каб дзяўчынка малявала, што хоча і калі хоча. Поспехаў табе, Маша!

**Алена СПАСЮК.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ АД СПАДАРЫНІ КЛАВЫ

### "СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ"

Двум удзельнікам вядучы дае саматканы пояс даўжынёй 6 метраў. Яны бяруць пояс за канцы, а вядучы трымае яго пасярэдзіне. Па знаку вядучага пад хуткую музыку ўдзельнікі накручваюць на сябе пояс, а калі дойдуць да сярэдзіны, тут жа пачынаюць раскручвацца. Раскруціўшыся, трэба адной рукой узяць пояс за канец, а другую паднясь угору. Пераможцам лічыцца той, хто хутчэй справіцца з заданнем.

### ВЯСНЯНКА

*(ДЗЕЦЯМ)*

"Вяснянка" — гэта лялька. Колькасць удзельнікаў 10—20 чалавек. На зямлі робяць круг дыяметрам 5—6 метраў — "лес", а ў сярэдзіне круга на хустку кладуць ляльку "Вяснянку" і выбіраюць "Лесавіка". Астатнія ўдзельнікі гульні "Жаўрукі". "Жаўрукі" "заляаючы" ў "лес", спрабуюць забраць "Вяснянку", а "Лесавік" ловіць "Жаўрука" рукой або дакранаецца да яго галінкай. "Жаўрук", якому ўдасца вынесці з "лесу" "Вяснянку", сам становіцца "Лесавікам", і гульня пачынаецца спачатку. Злоўленыя "Жаўрукі" выбываюць з гульні.

Гульня заканчваецца па заданню ўдзельнікаў або калі будуць злоўлены ўсе "Жаўрукі". "Лесавік" не мае права выходзіць з "лесу"-круга.

### ГАЛУБЫ

*(ПАДЛЕТКАМ)*

У гульні могуць удзельнічаць 40 чалавек. Усе дзеляцца на дзве роўныя каманды. Бяруцца за выцягнутыя рукі і ўтвараюць два ланцугі.

Адлегласць паміж ланцугамі 8—15 метраў. Па дамоўленасці адна з каманд задае пытанні, другая на іх адказвае:

— Дзе лятае ваша чарада?

— Наша чарада ў небе лятае.

— Чаму яна к нам не прылятае?

— Той прылятае, каго хто выклікае!

— ..! (называецца імя аднаго з іграком другой каманды).

Удзельнік гульні, імя якога назвалі, бяжыць да першай каманды і грудзьмі або плячом стараецца разарваць ланцуг. Калі яму гэта ўдаецца, ён забірае ў сваю каманду аднаго з удзельнікаў гульні, рукі якіх ён "разняў", а калі не, — становіцца сам паміж ігракамі, рукі якіх спрабаваў разняць".

У гэтай гульні перамагае тая каманда, якой удасца "забраць" усіх з каманды праціўніка.

*Прапанаваныя гульні няхай адораць вас добрым настроем у веснавыя дні.*

*Працяг. Пачатак у № 8.*



# АПОВЕСЦЬ МІНУЛЫХ ГАДОЎ

## Павесіў Алег свой шчыт на вароты Царграда

*У год 6415 (907).*

Пайшоў Алег на грэкаў, пакінуўшы Ігара ў Кіеве. І ўзяў ён з сабою мноства варагаў, славянаў, чудзі, крывічоў, меры, драўлян, радзімічаў, палян, севяран, вяцічаў, харватаў, дулебаў і цiверцаў, вядомых як тлумачы-перакладчыкі, — усіх іх грэкі называлі "Вялікая Скіф". Пайшлі яны конна і на караблях, якіх было аж дзве тысячы.

Прыйшлі да Царграда. Грэкі замкнулі Суд (суд — заліў і гавань Залаты Рог, што замыкаліся на ланцуг, перацягнуты з вежаў на процілеглых берагах) і зачыніліся ў горадзе.

Загадаў Алег воям зрабіць колы, а на колы паставіць караблі. І з ветрам, што дзьмуў у ветразі, войска Алегава наблізілася да горада.

Убачыўшы гэтае дзіва, паслалі грэкі да Алега:

"Не губі горад, вазьмі даніну, якую хочаш".

Спыніў Алег войска. Вынеслі грэкі ежу і віно, але ён не крануў пачастункаў атручаных. Спалохаліся грэкі:

"Пэўна святога Дзмітрыя (святы Дзмітрый Салунскі лічыўся апекуном славян), а не Алега паслаў да нас Бог!"

І загадаў Алег ім плаціць даніну на дзве тысячы караблёў. Па дванаццаць грыўняў кожнаму воіну. У караблях жа сядзела па сорак воінаў. Потым прымусіў плаціць даніну гарадам рускім: найперш Кіеву, а таксама Чарнігаву, Пераяслаўлю, Полацку, Растову, Любечу і іншым гарадам, дзе сядзелі вялікія князі, падуладныя Алегу.

На ўсё згаджаліся грэкі, просячы, каб толькі не ваявалі іхняй зямлі. І прысягнулі яны адзін аднаму. Цары грэцкія крыж цалавалі, а Алег па звычаю рускаму кляўся на зброі, а таксама Перуном (Пярун — язычніцкі бог вайны і грому), богам сваім і Велесам, богам жывёл.

І заключылі мір яны. Павесіў Алег на вароты Царграда свой шчыт у знак перамогі над грэкамі. А сам вярнуўся ў Кіеў з багатай данінай: з золатам і тканінамі, з віном і ўсякімі прысмакамі. І сталі называць Алега Вешчым.

## І ўспомніў Алег каня свайго

*У год 6420 (912).*

Жыў Алег, княжачы ў Кіеве, у міры з усімі краінамі. Надышла восень. І ўспомніў Алег каня свайго, якога калісьці паставіў карміць, а сам на яго не сядаў. Бо спытаўся аднойчы ў вешчуноў ён:

"Ад чаго я памру?"

Адказаў адзін чараўнік:

"Княжа! Ад каня любімага, што пад табою, памрэш ты".

Запалі Алегу ў душу гэтыя словы, і сказаў ён сабе: "Ніколі больш на яго не сяду".

І загадаў карміць вернага друга, але не сядлаць. Пражыў Алег некалькі гадоў без каня, пакуль на грэкаў хадзіў. А калі вярнуўся ў Кіеў і мінула чатыры гады, успомніў колішняе прадказанне. Паклікаў старэйшага конюха:

"Дзе мой конь, якога табе я пакінуў?"

Адказаў конюх:

"Ён ужо памёр".

Засмяяўся Алег і пажурыў чараўніка:

"Няпраўду кажуць вешчуны. Каня даўно няма, а я жывы. Пагляджу хоць на яго косці".

Прыехаў на месца, дзе ляжалі конскія косці, засмяяўся і сказаў:

"Ці не ад гэтага чэрапа наканавана памерці мне?"

І наступіў нагою на чэрап. Раптам выпаўзла з чэрапа гадзюка і ўкусіла Алега ў нагу. Расхварэўся ён і памёр.

Плачам вялікім аплаквалі людзі Алега. Затым пахавалі яго на гары, што Шалкавіцай завецца. І да сённяшніх дзён ёсць магіла Алегава, а княжыў ён трыццаць тры гады.

**Працяг. Пачатак у №№ 50 (1998 год), 10 (1999 год).**

ЮБІЛЕІ

# СПАДЧЫНА ДЫНАСТЫІ ГЛЕБАВЫХ

*У майскія дні адной з прыкметных падзей культурнага жыцця беларускай сталіцы стала святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння карыфея купалаўскай сцэны, вялікага акцёра, народнага артыста СССР Глеба Глебава. У надзвычай моцным і таленавітым ансамблі першага пакалення тэатра імя Янкі Купалы ён займаў асаблівае месца. І не толькі з прычыны таго, што валодаў вялікім талентам камедыйнага акцёра, але і прыцягальнасцю сваёй асобы. Гледачы любілі герояў Глебава, яго самога за выключную самаадданасць, рыцарскае служэнне мастацтву. А купалаўцы сваю любоў і пашану да гэтага чалавека ўкладалі ў словы — "наш Глебушка". 40 гадоў ён аддаў сцэне, і яго імя назаўсёды ўвайшло залатым радком у гісторыю беларускага тэатра.*

**Маргарыта СТАРЫХ.**

ГАСЦЮЮЧЫ ў доме Глебавых-Белахвосцікаў, я перагортвала вялізны альбом фатаграфій, падораны Глебу Паўлавічу на яго шасцідзесяцігоддзе, фоталетапіс творчай біяграфіі. І думала аб тым, як мне пашчасціла, бо некаторыя са спектакляў мне давялося ў юнацтве бачыць. Менавіта тады і ўзнікла цікавасць да беларускай мовы: купалаўцы-"дзяды" размаўлялі прыгожа, мякка.

І маё першае пытанне да Валянціна Белахвосціка, акцёра і зяця Глеба Глебава, пра яго ўспрыняцце купалаўцаў-"дзядоў" і тэатра таго часу.

— Мне давялося амаль з усімі "дзядамі" іграць, няхай спачатку ў масоўках. Першае адчуванне: перад табой акцёр-глыба, асоба. Знаходзіцца разам з імі на сцэне, хаця і ў ролі эфіопа, без слоў, у "Лісе і вінаградзе" — гэта асалода. А потым была "Лявоніха на арбіце" — Платонаў, Глебаў, Дзядзюшка, Макарава, Бірыла... Такі букет! Для мяне гэты спектакль як універсітэт.

Увогуле тады ў тэатры панавала нейкая асаблівая атмасфера добразычлівасці, творчасці. "Дзяды" былі ўважлівыя да моладзі, не адасабляліся, не ўтойвалі сакрэты свайго майстэрства. Але я па маладосці ўспрымаў усё гэта як дадзенасць, само сабой зразумелае, думаў, што і ва ўсіх тэатрах гэтаксама. І толькі на гастролях у Кіеве, калі акцёры-франкіўцы пачалі нам зайздросціць: маўляў, ваш тэатр — маладыя і старыя — гэта адзінае цэлае, зразумеў і ацаніў тую дадзенасць.

Богдан Ступка, цудоўны ўкраінскі акцёр майго пакалення, таксама неяк зазначыў: "Як вы іграеце адзін аднаго!" А гэта ж натуральна, бо не можа акцёр існаваць у спектаклі сам па сабе. Ансамблевасць — яе я застаў у тэатры, яна была і пры нашым пакаленні, а потым...

**— Вы маглі назіраць Глебава не толькі на сцэне, але і ў сям'і. Што вас больш за ўсё прываблівала ў гэтым чалавеку?**

— Яго апантанасць тэатрам. Глеб Паўлавіч у поўным сэнсе служыў тэатру. Ён аднолькавым быў, што ў тэатры, што дома: любіў трапны жарт, любіў збіраць вакол сябе сяброў, удзельнічаць у капусніках. Не мянялі яго і "пасады" — старшыні мясцовага камітэта прафсаюзаў і мастацкага кіраўніка тэатра. Ды, калі шчыра, то яны ніякім чынам не адпавядалі характару Глеба Паўлавіча. Сцэна — вось што цалкам валодала яго пачуццямі, усім жыццём. Ён толькі ўваходзіў у тэатр, ледзь прыкметна, але ў ім падымаўся тонус, жарт, ужо знаёмы, гучаў крыху інакш.

**Вольга Глебаўна (дачка):**

— Мне было семнаццаць гадоў, і бацька ўзяў з сабой на гастролі ў Кіеў. Як заўсёды, пачыналі з "Паўлінкі". "Зялёны тэатр" у парку, гледачы — у асноўным бабулькі. Зазірнула за кулісы, а бацька нешта сур'ёзна, заклапочана тлумачыць актрысе, здаецца, гэта была Макарава. Звычайны, выязны спектакль, толькі вось адносіны да яго па максімуму. І гэтак ва ўсім, што тычылася тэатра — як гэта спазніцца ці не пайсці на рэпетыцыю, узяць бюлетэнь на час выязнога спектакля?! Ніколі ніякіх інтрыг, толькі работа. Так, ён быў таленавітым акцёрам, але і працавітым незвычайна, надзеленым інтуіцыяй, якая дазваляла добра адчуваць розныя эпохі, арганічна ўваходзіць у драматургічны матэрыял. І нараджаліся такія розныя, але сакавітыя вобразы, як мальераўскі Скупы і Пустарэвіч у "Паўлінцы".

**— Зоя (унучка, актрыса), а вы памятаеце свайго дзеда?**

— Вядома, памятаю. Мне было ўжо шэсць гадоў, калі яго не стала. Памятаю не ўсё, а некаторыя фрагменты з "Паўлінкі" — гэта надзвычай цікава, весела. А потым мяне вымушаны былі адвезці дамоў, бо я пачала плакаць і заступацца за свайго дзеда на ўсю залу, калі Паўлінка па ходу дзеяння "біла" яго.

Памятаю гульні "ў майго сыночка" з ім — коскі яму заплятала, пад стол ганяла і не разумела, чаго гэта дзядуля моршчыцца: ён ужо быў цяжка хворы, але цярпеў.

Памятаю ягоныя жарты і адзіную казку "Дзед і жораў", якую ён кожны раз расказваў, бо іншых не памятаў, фокус з апельсінам... Шкада, што мала давялося быць з дзедам. Але нешта даведваюся пра яго ад бацькоў, нешта — ад старэйшых акцёраў, людзей, якія дзеда ведалі і любілі; для іх ён назаўсёды — Глебушка. Адной з яго "слабасцей" быў заапарк: як толькі прыедуць на гастролі, дзед адразу высвятляў, ці ёсць у горадзе заапарк, а потым, запрасіўшы Станюту, ішоў да звяроў у госці. Вядома ж, перагледзела ўсе фільмы з удзелам дзеда — акцёрам ён быў, як гаворыцца, ад Бога.

**Вольга Глебаўна:**

— А якім ён быў гледачом! Гэта трэба было бачыць! Седзячы ў зале, бацька быццам "праігрываў" ролю, якая была яму даспадобы. Калі муж заканчваў ГИТИС, мы разам з бацькам паехалі ў Маскву, каб прысутнічаць на дыпломным спектаклі. Я глядзела то на сцэну, то на бацьку, бо яго твар, быццам люстэрка, адлюстроўваў усё, што адбывалася там. А калі музыкант па ходу дзеяння пачаў надзяваць на сябе трубу, бацька міжвольна паўтараў кожны яго рух... Гэта было неверагоднае відовішча!

**— Валянцін Сяргеевіч, бацькі заўсёды звязваюць пэўныя спадзяванні з дзецьмі, асабліва, калі тыя выбіраюць іх прафесію. Ці спраўдзіліся вашы надзеі, звязаныя з Зояй?**

— Ну, па-першае, мы зусім не хацелі, каб Зоя была актрысай. Хаця і разумелі, што іскра Божая ў ёй ёсць, усё ж адгаворвалі. Лёс акцёра зусім не просты — можна мець талент і не мець роляў. Калі я не рэпеціірую, не іграю, то губляю прафесію — гэта страшэнная рэч. Выпрабаванне бязроллем — самае цяжкае ў тэатры, яно загубіла не аднаго акцёра. Мы спадзяваліся, што дачка, магчыма, стане мастачкай, здольнасці ў яе ёсць — вось якраз насупраць вас адна з Зоіных работ. Але...

Вельмі добрыя водгукі меў дыпломны спектакль, але, калі б у Зоі не атрымалася Паўлінка, цяжка казаць, ці ўзялі б яе ў трупу нашага тэатра, ці склаўся б яе акцёрскі лёс.

**Вольга Глебаўна:**

— Апантанасць тэатрам у Зоі ад дзеда Глеба. Ужо не першы год на сцэне, але дагэтуль не разумее, як гэта можна халтурыць, пахамску адносіцца да работы. Дарэчы, калісьці купалаўцы ўсе — пачынаючы ад акцёраў і заканчваючы радыстамі, асвятляльнікамі, касцюмерамі, грымёрамі — менавіта служылі тэатру, а не проста хадзілі на работу. А цяпер, на жаль, інакш.

**— Ведаю, што ўжо праўнучка Глебава, Валюша, дэбютавала на купалаўскай сцэне...**

**Зоя:**

— Ну, як усе акцёрскія дзеці, — спачатку ў вадэвілях напрыканцы выходзіла кланяцца. Потым у "Паўлінцы" сядзела на куфры, а ў спектаклі па Мрожэку ўжо дачку іграла, а мой тата якраз па спектаклю таксама яе дзедам быў. Нават у Польшчу на гастролі ездзіла і грошы атрымлівала, чым вельмі ганарылася.

**— Тры акцёры ў сям'і — муж, дачка, зяць... А цяпер яшчэ і ўнучка ў актрысы падалася. Рэпетыцыі, прэм'еры, прастоі, хваляванні... нейкі свой асобы рытм. Вольга Глебаўна, як вы ўсё гэта вытрымліваеце?**

— Вядома, усё не проста. Але заўсёды было жаданне дапамагчы ім, падтрымаць, зразумець — гэта ў мяне ад маіх бацькоў. Тата вельмі даражыў сям'ёй. Вядома, маці было крыху прасцей — так склаліся абставіны, што яна рана пакінула сцэну. Увесь дом быў на ёй — чысціня ідэальная, ежа найсмачнейшая. Я таксама, нягледзячы на сваю занятасць (выкладаю ў Акадэміі музыкі) — імкнуся "трымаць" дом і каб святы заўсёды былі святамі, каб пахла пірагамі. Праўда, цяпер усё неяк не так, як раней было. Памятаю дзяцінства, калі да бацькі прыходзілі ў госці сябры-акцёры — столькі весялосці было, розных выдумак, жартаў... Купалаўцы-"дзяды" — яны ўсё ж нейкімі асаблівымі былі...

**За чаем са смачнымі піражкамі Вольгі Глебаўны мы шмат пра што размаўлялі ў той дзень. Але пра што б ні ішла наша гаворка, неяк само сабой мае субяседнікі вярталіся да дзеда Глеба, да купалаўцаў тых часоў, калі тэатр ззяў сузор'ем талентаў.**



*Г. Глебаў. 40-я гады.*



*Пустарэвіч — "Паўлінка" Я. Купалы.*



*Гарошка — "Выбачайце, калі ласка!" А. Макаёнка.*



*Маёр — "Дамы і гусары" А. Фрэдры.*



*Бацяноўскі — фільм "Першыя выпрабаванні".*



*Язва — "Мілы чалавек" К. Крапівы.*



*У ролі Паўлінкі — Зоя БЕЛАХВОСЦІК.*

НОВАЕ ІМЯ

**Антось НАВІЦКІ**

* * *

Пражыты новы дзень —
Надзей і хваляванняў,
У хроніцы падзей
Пакінуты пытанні.

Трывожных думак рой,
Раствораны ў Сусвеце:
Хто сённяшні герой?
Што мае ён на мэце?

У НАТАўскі загон
Ідзе "герояў" зграя.
Дзе ява, а дзе сон —
Ніхто не разбірае.

У заўтра зазірну —
Няўдзячная работа.
Струну душы крану —
Гучыць фальшыва нота.

Сярод якіх людзей
Я заўтра апынуся?..
У хроніцы падзей
Знайсці сябе баюся.

## РОЗДУМ

Ніяк свайго жыцця
Я не знайду значэнне,
На бераг забыцця
Нясе мяне цячэнне.

Губляюся ў вірох,
Наканаваных лёсам,
Дзе той расце мурог,
Што не баіцца косаў?

Дзе адшукаць расу,
Што пераможа сонца?
Як зберагчы красу
Для радасці бясконцай?

Сатчэцца новы дзень
З хвілін сустрэч, падзеяў...
Знайду прытулак дзе
Імкненням і надзеям?

Дзе, у якой цішы
Выратавальны востраў?
Прытулак для душы
Знайсці зусім няпроста.

## «МІЛЬЁНЫ ЛЁСАЎ ЗМЕШЧАНЫ Ў МАІМ...»

У Доме літаратара адбылася паэтычная сябрына, прысвечаная народнаму паэту Беларусі Аркадзю Куляшову. Арганізатарам выступіў Саюз пісьменнікаў, а вёў праграму яго старшыня Уладзімір Някляеў.

На вечары выступілі вядомыя пісьменнікі і іншыя дзеячы культуры: Генадзь Бураўкін, Мікола Аўрамчык, Алесь Пісьмянкоў, Валянціна Коўтун, Марыя Захарэвіч.

Генадзь Бураўкін адзначыў, што для яго Куляшоў — гэта чалавек заўтрашняга дня, гэта прарок, а яго паэзія — "нацыянальны скарб".

Напрыканцы сустрэчы выступіла дачка паэта Валянціна Куляшова. Яна згадала юбілейны вечар Пімена Панчанкі, які адбыўся ў 1976 годзе і на якім Аркадзь Куляшоў сказаў: "Беражыце сэрца паэта".

Вечар быў вельмі насычаным: чыталіся вершы, балады, пераклады, эпісталярыі славутага паэта. Гучалі песні "Алеся" і "Ты ўспомні ўсё..." Завяршыў вечар народны гурт "Ліцвіны", кіраўнік якога — унук паэта Уладзімір Бербераў.

**Вія ГРАВАНС.**

## «ТАРАС НА ПАРНАСЕ» Ў ВАРШАВЕ

11—18 мая ў Польшчы прайшоў 44-ты Міжнародны кніжны кірмаш, у якім прымалі ўдзел і беларускія кнігавыдаўцы. На адзінай нацыянальнай экспазіцыі "Кнігі Рэспублікі Беларусь" прадставілі сваю прадукцыю дзяржаўныя і прыватныя выдавецтвы.

Больш 13-ці выданняў паказала на варшаўскім кірмашы беларускае выдавецтва "Юнацтва". Гэта гістарычны раман Генрыха Далідовіча "Кліч роднага звона", зборнік беларускіх народных казак "Заклятае возера", а таксама паэма Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра", што выйшла на беларускай і рускай мовах. Паехала ў Варшаву і паэма "Тарас на Парнасе". Яна прадстаўлена на трох мовах — рускай, беларускай і англійскай.



НОВЫ РЭКОРД БЕЛАРУСА — У КНІГУ ГІНЕСА

# Аляксандр КАЛІНІН:

# «ЗАБАВЫ — ГЭТА СУР'ЁЗНА!»



**Аляксандр КАЛІНІН — віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў, генеральны дырэктар Рэспубліканскага аб'яднання "Белатракцыён", якое ў нашай краіне з'яўляецца самым буйным прадпрыемствам у гэтай галіне.**

**"Белатракцыён" займаецца арганізацыяй атракцыёнаў у парках для дзяцей і дарослых, вытворчасцю абсталявання для забаў, усталёўвае іграв ыя аўтаматы, аўтаматы для азартных гульняў у кафэ, барах, казіно. Яшчэ "Белатракцыён" займаецца своеасаблівым спонсарствам. Пра гэта і, зразумела, пра перспектыву індустрыі забаў на Беларусі ідзе размова ў інтэрв'ю нашага карэспандэнта з Аляксандрам КАЛІНІНЫМ.**

*— Ці згодныя вы, што для нашых дзяцей за апошнія гады амаль нічога новага ў парках не з'явілася?*

— Гэта не так. Ёсць новыя каруселі, мы завезлі дзіцячыя аўтаматы для гульні з японскімі праграмамі і хутка паставім іх у мінскіх парках. Але ж існуе аб'ектыўная рэальнасць. Ва ўмовах агульнага эканамічнага крызісу вельмі цяжка нешта развіваць.

Інвестыцыі ў індустрыю забаў — гэта такое ж укладанне грошай, як у любую іншую галіну вытворчасці. Яны павінны забяспечваць акупнасць. Мы працуем на будучыню. І нават распрацоўваецца праект новага сучаснага дзіцячага парку. Сёлета пачнецца яго будаўніцтва.

*— Няўжо гэта рэальна?*

— Я аптыміст. Думаю, што і ў нашай краіне людзі не могуць бясконца атрымліваць зарплату 30 долараў. Нешта зменіцца.

*— Раскажыце, калі ласка, падрабязней пра парк.*

— Плошча парку зойме каля 7 гектараў. Па праекту гэта будзе міні-Беларусь з яе гарадамі, азёрамі, запаведнікамі, курганамі. Падобныя паркі ёсць у кампаніі "Lego". Я бачыў адзін з іх у Бельгіі. Праўду кажучы, мяне ён не ўразіў. Пакуль не магу сказаць, з якога матэрыялу мы зробім свае пабудовы, пытанне вырашаецца. Над праектам "чаруе" цэлая творчая майстэрня Левіна, дзе і распрацоўваецца канцэпцыя дзіцячага парку. На першым этапе плануецца ўстанавіць каруселі, потым летні цырк-шапіто. Далей — міні-ландшафт Беларусі. Потым зона водных атракцыёнаў. І апошняе: два берагі Свіслачы злучацца — магчыма канатнай дарогай ці якім іншым чынам.

*— Будуем для ўнукаў?*

— Чаму ж? Думаю, рэалізацыя першых двух этапаў зойме наступныя два гады. Зараз шукаем замежных інвестараў. На жаль, Беларусь па міжнародных даведніках, пакуль з'яўляецца краінай з высокай ступенню рызыкі. Але зноў-такі спадзяюся на змяненне сітуацыі. Праект жа зроблены за кошт сродкаў "Белатракцыёна". І я веру, што калісьці нашы аб'екты не толькі запрацуюць, але і будуць акупляцца.

*— Раскажыце, калі ласка, як вы спрыяеце ўваходжанню беларусаў у Кнігу рэкордаў Гінеса і "Диво".*

— У нас ёсць дамоўленасць з выдаўцамі кнігі рэкордаў "Диво", якая выходзіць у Расіі, што мы з'яўляемся яе афіцыйным прадстаўніком на Беларусі. Як адзін з відаў атракцыёнаў разглядаем відовішчы, усё гэта — забавы. Зараз рыхтуемся пабіць рэкорд датчаніна, зафіксаваны ў Кнізе Гінеса па падняццю піўной бочачкі. Капітан міліцыі Вячаслаў Харанэка на працягу шасці гадзін будзе ўздымаць піўную бочачку вагой 63 кілаграмы.

Акрамя гэтага, мы зарэгістравалі шэсць сусветных рэкордаў, якія прызнала Міжнародная федэрацыя гіравага спорту, і збіраемся праводзіць сёлета ў Мінску міжнародныя спаборніцтвы па падняццю гіры. Спадзяемся, што беларусы пераможуць. "Белатракцыён" дапамагае беларускім спартсменам у падрыхтоўцы да гэтых мерапрыемстваў. Мы займаемся тым, што папулярызуем рэкорды, бо хочам, каб пра выдатныя здзяйсненні ведалі ўсе. Я маю на ўвазе і прэсу, і кнігі "Диво" і Гінеса.

*— Вы аддаяце перавагу менавіта сілавым відам спорту?*

— Не. Да нас дасылаюць шмат лістоў. Нехта напісаў своеасаблівыя вершы, нехта вырасціў вялікі лімон... Мы супастаўляем атрыманыя дасягненні з зафіксаванымі ў Кнігах Гінеса, "Диво". Калі бачым, што рэкорд ёсць, звяртаемся да выдаўцоў вышэйназваных кніг, каб яго зафіксаваць. Акрамя таго, дапамагаем спартсменам абсталяваннем, знаходзім месца, дзе будзе пастаўлены і прадэманстраваны рэкорд. Я ўпэўнены: павінна існаваць прапаганда забаў. Сумна, калі ўсё зводзіцца да размоў, што ў нас самая танная гарэлка ў Еўропе і што яна для нас самы даступны сродак баўлення часу. Мы хочам прапанаваць гэтаму рэальную і карысную альтэрнатыву.

Размаўляла **Алена СПАСЮК.**

**P. S. Пакуль матэрыял рыхтаваўся да друку, адбылося наступнае: 1 мая ў мінскім рэстаране "Ракаўскі бровар" Вячаслаў Харанэка перавысіў рэкорд, пазначаны ў Кнізе Гінеса. Ён падымаў піўную бочачку вагой 63,3 кілаграма 925 разоў на працягу 6 гадзін (у сярэднім 2,5 пад'ёму ў мінуту). Вячаслаў за 6 гадзін згубіў больш за 5 кілаграмаў вагі цела. Цяпер справа за тым, каб афіцыйна зафіксаваць выдатнае дасягненне.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# Валерый ДАЙНЕКА:

# НАТХНЯЮЦЬ МУЗЫКА І КАХАННЕ

*ШЛЯХІ творчыя неспазнаныя. Уход з Дзяржаўнага канцэртнага аркестра рэспублікі ўладальніка аднаго з самых прыгожых галасоў Беларусі Валерыя Дайнекі на "вольную сцэну" многія ўспрынялі з некаторым жалем. Потым — проба сіл у якасці вядучага тэлеперадачы "Запрашэнне", удзел у музычных тэлепраграмах, выкладчыцкая работа і зноў рэзкі паварот — вяртанне ў стары-новы калектыў "Беларускія песняры", што крыху збянтэжыла тых, хто паспеў прывыкнуць да Дайнекі як да яркай і неардынарнай асобы, самастойна існуючай на айчынным эстрадным Алімпе.*

*Што падштурхнула артыста да такіх нечаканых перамен?*

**— Валерый, раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю, пра тое, як складваўся ваш творчы шлях.**

— Скончыў музычнае вучылішча. Затым быў інстытут культуры. Асвоіў тры спецыяльнасці: выкладчык, саліст аркестра (скрыпка, альт), харавое дырыжыраванне. У вольны час захапіўся маляваннем і заняўся вакалам, які стаў асновай майго творчага шляху.

Пра сябе... Я нарадзіўся ў Мінску, вырас у музычнай сям'і. Захапляўся жывапісам, літаратурай, рыбалкай, ну і, вядома ж, музыкай, без якой не ўяўляю сваё жыццё. З бацькамі жыву ў адным раёне, дай Бог ім здароўя. Натуральна, часта іх наведваю. Пра сябе магу сказаць так: жанаты халасцяк, мая сям'я жыве ў Маскве, у мяне дзве дачкі, якім семнаццаць і адзінаццаць гадоў.

**— У вашым творчым жыцці за апошні час адбылося столькі перамен... Чым вы ў дадзены момант займаецеся? І што вас цяпер займае?**

— Цяпер я працую ў ансамблі "Беларускія песняры". Паралельна запісваю некалькі сольных праграм. Гэта праекты, што ажыццяўляюцца сумесна з кампазітарам Дзмітрыем Даўгалёвым, Валерыем Галаўко і Аляксандрам Балашовым. Хачу выпусціць свой другі альбом са старымі і новымі песнямі.

Падзеяй, што найбольш прыцягнула маю ўвагу ў мінулым годзе, быў чэмпіянат свету па футболу, які прайшоў у Францыі: амаль месяц, можна сказаць, быў прыкаваны да экрана тэлевізара, глядзеў матчы. Але больш за ўсё чакаў летняга адпачынку, які правёў з дачкой у Туапсэ. Пасля зноў надышлі будні...

**— Валерый, цікава, хто ваш любімы паэт, кампазітар, спявак, музыкант?**

— Любімых паэтаў многа. А любімы спявак, кампазітар і музыкант — недасяжны Сціві Вандэр.



**— Для якой публікі вы спяваеце?**

— Для публікі не спяваю, але для нешырокага кола людзей, якім падабаюцца песні ў маім выкананні, — з задавальненнем.

**— У сваёй творчасці, як прадстаўляецца, вы развіваеце еўрапейскія песенныя традыцыі, што каранямі ідуць у далёкае і рамантычнае рыцарскае мінулае, у якім ярка выяўлены мужчынскі, мужны пачатак. Вашы песні ў большасці сваёй прысвечаны прыгожым дамам. Які ваш ідэал жанчыны? І які, на вашу думку, павінен быць сапраўдны мужчына?**

— На мой погляд, жанчына павінна быць прыцягальнай, але не вельмі прыгожай, не надта разумнай, але не дурніцай, сексуальнай, але не вульгарнай, ахайнай, але не чысцюляй. Ад яе заўсёды павінна веяць дабрынёй і ўвагай, яна не павінна гучна смяяцца на людзях. Ёсць рэчы, на якія я звяртаю ўвагу адразу, але не адначасова: гэта вочы і пазногці. Што ж тычыцца мужчын, то, дарэчы, адношу сябе да такіх, і маё меркаванне адносна сапраўдных мужчын суб'ектыўнае. Напэўна, на гэта пытанне лепш адкажа жанчына.

**— Нечаканай для многіх стала ваша выкладчыцкая дзейнасць. Раскажыце, калі ласка, пра гэтую новую вашу работу, пра сваіх студэнтаў.**

— Мой выкладчыцкі прынцып — не вучыць маладых людзей спяваць, а правільна накіроўваць іх. Не абыходзіцца без практыкаванняў, дыхальнай гімнастыкі і іншага, але самае цікавае ў гэтай справе — праца над песнямі. Я прыйшоў да высновы: калі маладыя людзі да семнаццацівасемнаццаці гадоў яшчэ не навучыліся спяваць, хаця б ледзь-ледзь, калі ў іх не было практыкі спеваў, то зрабіць з іх у гэтым узросце што-небудзь вельмі складана. І галоўная праблема нават не ў адсутнасці здольнасцей, а ў нейкім унутраным тормазе.

**— Напэўна, кожнаму чалавеку ўласціва задумвацца пра сваё месца, прызначэнне ў жыцці. Якая ваша місія?**

— Дрэва я ўжо пасадзіў, і не адно. Дзіця выхаваў (і не адно), ну а далей, наколькі хопіць жыцця і здароўя, — тварыць дабро і як мага больш прыносіць карысці і радасці людзям сваімі ўчынкамі, працай... Ды яшчэ засталося пабудаваць дом.

**— Вашы адносіны да славы, грошай, паклоннікаў?**

— Да славы стаўлюся спакойна і з замілаваннем назіраю за людзьмі, якія ўпіваюцца ёю, не маючы аніякіх адносін да прафесіі, аб'ектам якой стала іх папулярнасць. Грошай хапае на мае сціплыя запатрабаванні. Ну а паклоннікі, я лічу, у маёй прафесіі павінны быць заўсёды. Яны вельмі стымулююць, дапамагаюць развівацца. Мае назіранні за калегамі пацвярджаюць: знікаюць паклоннікі — канчаюцца слава і грошы.

**— Хто вы па жыцці — фаталіст ці аптыміст?**

— Я веру ў лёс і што многае ў жыцці прадпісана людзям: кар'ера, шлюб, здароўе. Не выключэнне і маё жыццё. Але амаль усё, чаго я дасягнуў, калі можна так сказаць, я зрабіў ці пабудаваў сам. І калі б, магчыма, не лянота на пэўным этапе, то дабіўся б значна большага.

**— Якія значныя падзеі, што паўплывалі на змены ў лёсе, адбыліся ў вашым жыцці?**

— Усё маё жыццё складаецца з мноства змен. Уласна, любыя змены ў грамадстве, у палітычным ладзе, у эканоміцы і іншым уплываюць на жыццё кожнага чалавека... У сваім жыцці найбольш важным крокам лічу вяртанне ў "Песняры" і ўдзел у стварэнні ў пэўным сэнсе новага калектыву "Беларускія песняры", які, развіваючы традыцыі беларускай песні, уносіць у яе кантэкст еўрапейскі сучасны музычны стыль, хаця ў сольнай кар'еры ёсць яшчэ многа недагаворанага...

**— Многія нашы вядомыя артысты, рэжысёры, мастакі, пераехаўшы працаваць у суседнюю Расію, Маскву, сцвярджаюць, што Мінск і Беларусь надзвычай для іх правінцыяльныя і тут няма прасторы для творчасці, а таксама публікі, здольнай ацаніць іх талент. Што, у вашым разуменні, правінцыя і правінцыяльнасць?**

— Калі мы гаворым пра эстраду, шоу-бізнес, то наколькі ў Рэспубліцы Беларусь ёсць нямала таленавітых людзей, якраз дзякуючы нашаму, так званаму правінцыялізму, адкрываецца прастора. Патрэбны толькі грошы. Артысты ў нас, на мой погляд, унутрана больш тонкія і чысцейшыя за расійскіх. Яны не сапсаваны нічым. Што ж тычыцца правінцыяльнасці, то яна ніколі не перашкаджала таленавітым людзям прабівацца (напрыклад, Сафія Ратару, Аляксандр Сяроў, Ігар Крутой, чэшка Хелена Вондрачкава і многія іншыя). Галоўнае — талент. З іншага боку, правінцыялізм — нават не столькі знешняя праява, колькі стан душы.

**— Крыніца вашага натхнення? Што вас можа вывесці са стану хандры, суму, калі такое здараецца?**

— Асноўны стымул для мяне — гэта музыка, новая музычная інфармацыя. Вялікую карысць прыносяць падарожжы, асабліва ў экзатычныя краіны са старажытнай культурай. Можа натхняць таксама (на канцэрце) сімпатычная, прыгожая дзяўчына дзе-небудзь у першых радах, якая з цікавасцю слухае маё выступленне.

**— Што засмучае і што дапамагае вам апошнім часам?**

— Засмучае, хаця я не палітык, нестабільнасць у эканоміцы нашай і суседніх краін. Пра гэта красамоўна гавораць сумныя твары прахожых на вуліцах. Хутчэй бы ўсё наладзілася, хаця мне здаецца, што і дзеці нашы яшчэ зазнаюць рэвалюцый... І хай дапаможа нам Бог! Бог і музыка! І каханне!

Гутарку вяла **Наталля КІРЫШЭНКАВА.**

ПАДАРОЖЖЫ: ЗАПРАШАЕ БЕЛАРУСЬ




# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК «БРАСЛАЎСКІЯ АЗЁРЫ»

NATIONAL PARK «BRASLAUSKIYA AZYORY» (Braslau Lakes)





Краявід з гары "Маяк".

**Калі вас зацікавяць нашы прапановы, звяртайцеся ў сектар арганізацыі турызму Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь: + (375) 172 — 22-38-03; 22-39-01, 22-29-78, факс 200-696 ці ў рэдакцыю газеты "Голас Радзімы". Тэл. + (375) 172 13-31-97, 13-37-82.**

На карце Полацкай зямлі 1579 года Браслаў паказаны як паселішча на востраве. І нездарма. Дзесяткі азёр, якія, нібы жамчужыны, нанізаныя на нітку рэчак, пратoк, каналаў, сталі найкаштоўным скарбам гэтых мясцін. Галоўныя з іх — Дрывяты (дарэчы, менавіта на яго беразе і месціцца Браслаў), Снуды, Струста, Войса, Неспіш, Воласа Паўночны і Воласа Паўднёвы, Недрава. Пад азёрамі тут 10 працэнтаў тэрыторыі. Але не толькі гэта вабіць на Браслаўшчыну шматлікіх падарожнікаў. *Вакол вадаёмаў раскінуліся* выдатныя лясныя масівы — Бальмонты, Відзаўская лясная дача і г. д. Унікальны мясцовы ландшафт, які нясе на сабе адбітак ледавіковага перыяду, надзвычай маляўнічы ўзгоркавы рэльеф. Ва ўсёй прыгажосці ён паўстае, калі падняцца на гару Маяк недалёка ад Браслава. Куды ні кінь вокам — паўсюль адмысловым блакітным карункавым узорам сцелюцца вялікія і малыя азёры.

Традыцыйна Браслаўшчына — адно з папулярных месцаў адпачынку ў Беларусі. Размешчаны нацыянальны парк "Браслаўскія азёры" на паўночным захадзе краіны на адлегласці 250 кіламетраў ад Мінска і займае тэрыторыю каля 72 тысяч гектараў. Як можна бавіць час на Браслаўшчыне? Найперш, канешне, раздолле аматарам рыбнай лоўлі: лешч, шчупак, акунь, плотка, сіг, лінь, рапушка — вось далёка не поўны пералік улову, калі вы завітаеце ў гэтыя мясціны. У поўным сэнсе экзатычнай стане лоўля вугра, легендарнай рыбы, якая адпраўляецца на нераст аж у Саргасава мора. Ну а прыгатаваная на кастры з усёй гэтай здабычы юшка будзе сапраўды каралеўскай. Дарэчы, чысціня вады ў азёрах адметная. Напрыклад, у возеры Воласа Паўднёвы празрыстасць вады — 7 метраў. У некаторых вадаёмах, захаваліся старажытныя і рэдкія віды ракападобных. Увогуле, адміністрацыя раёна надае экалагічнай чысціні вельмі вялікае значэнне. Тут няма шкодных прамысловай вытворчасці, ие, дарэчы, увогуле на Браслаўшчыне няшмат, і ўсё з-за таго, каб не парушаць існуючую унікальную чысціню.

Не застануцца без спраў і паляўнічыя. На Браслаўшчыне ім прадаставіцца магчымасць "паспрачацца" з ласём, дзікам, зайцам, ваўкамі, лісамі. Можна сустрэць у браслаўскіх гушчарах янотападобнага сабаку, чорнага тхара, лясную куніцу, выдру, андатру, бабра, вавёрак. Калі ж у вас адсутнічае паляўнічы інстынкт, ёсць магчымасць пабачыць некаторых дзікіх жывёл у натуральных умовах у вальерах. Паблукаўшы па лесе ці пасядзеўшы з вудай на возеры, падарожнікі вернуцца ў сучасны камфартабельны гатэль з адпаведна абсталяванымі нумарамі "люкс" і "паўлюкс", наведаюць сауну ці рускую лазню.


*На базе адпачынку, размешчанай на беразе возера Дрывяты, з гасціннасцю чакаюць вандроўнікаў.*

Сам Браслаў — горад невялікі, але старажытны: заснаваны яшчэ ў пачатку XI стагоддзя на месцы паселішча крывічоў і латгалаў, якое існавала з IX стагоддзя. Доўгі час горад выконваў ролю абарончага пункта на паўночна-заходнім парубежжы Полацкага княства, некалькі разоў цалкам разбураўся, у выніку чаго помнікаў даўніны засталося няшмат. Але тое, што ёсць, зберагаецца і шануецца, а таму турыстаў у Браславе чакае і цікавая культурная праграма: наведанне касцёла і праваслаўнай царквы, падарожжа на Замкавую гару, экскурсіі ў краязнаўчы музей і музей рамёстваў... У апошнім, між іншым, акрамя цікавай экспазіцыі, наведвальнікаў чакаюць сустрэчы з мясцовымі майстрамі — ткачыхай, пляцельшчыцай з саломы, ганчаром. Яны не толькі ўсё раскажуць, але і пакажуць, як працуюць.


Легендарныя героі браслаўскай мінуўшчыны.

Герб Браслава, дараваны гораду каралём Станіславам Аўгустам у 1792 годзе, мае назву "Вока прадбачання" і абсалютна мірны выгляд — выяву чалавечага вока ў блакітным трохвугольніку на фоне сонечных промняў. Ён нібы сімвалізуе ваду, сонца і чалавечую ўвагу, якія валадараць у гэтым краі і нязменна чакаюць усіх яго гасцей.

**Фота Ігара МАКАЛОВІЧА.**


На кацеры з ветрыкам — сапраўднае задавальненне.

## ЖАРТЫ ЛЯ ВОГНІШЧА

**Паляўнічы расказвае ў гасцях.**

**— Самы небяспечны звер — грызлі. Ад гэтага мядзведзя няма ратунку. Калі вы бяжыце — ён пабяжыць за вамі яшчэ хутчэй. Калі вы кінецеся ў ваду і паплывяце — ён таксама паплыве...**

**— А калі схавацца! — спытаўся нехта з гасцей.**

**— Ён таксама схавецца.**

***

**Размаўляюць паляўнічыя:**

**— Улез я, ведаеце, на сук, а ваўкі пада мной так і скачуць, так і скачуць... І раптам сук... тррах... Я — прама на ваўкоў...**

**— Ай, і што ж!**

**— Што! Ну, вядома ж, разарвалі на шматкі.**

***

**Інфармацыя для рыбакоў: у летні перыяд шчупак трапляецца часцей у тых вадаёмах, дзе яго больш.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і адрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 904.
Падпісана да друку 17.05.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82